Oplata pocztowa uiszczona ryczałtem.

**Цана асобнага нумару 50 гр.**

**Падпісная плата:**

за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
**Вільня, Віленская 3.**

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

# Саха

**Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі і Коопэрацыі**

№ 1 | Вільня. Верасень 1930 г. | Год I.

## Зьмест:

Стар.
Ад рэдакцыі . . . . . . . . . . . . . . 1
Эвалюцыя нашае сельскае гаспадаркі . . 2
Значэньне коопэрацыі ў жыцьці працоўных масаў . . . . . . . . . . . . 5
Маральныя падставы коопэрацыі . . . . 10
Эканамічны мамэнт на Беларусі . . . . . 12
Зялёны гной . . . . . . . . . . . . . . 14
Пырнік . . . . . . . . . . . . . . . . 15
Дагляд за азімымі пасевамі . . . . . . 17
Як завесьці добры сад . . . . . . . . . 20
Кароткія ўвагі аб бульбе . . . . . . . . 22
Як зужыткаваць паросшае ў снапох жыта 23
Скарыстаньне торфу на ўгнаеньне . . . . 24
Перапрацоўка касьцей на ўгнаеньне . . 25
Пчалярскі аддзел: Ад рэдакцыі. Як пераховўваць мёд . . . . . . . . . . . 27
Зборка гнёздаў на зіму . . . . . . . 28
Дробныя парады . . . . . . . . . . . 29
Хроніка . . . . . . . . . . . . . . . . 30
Абвесткі

ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

# ПЕРАСАДКА ПЛАДОВЫХ ДРЭЎ

Пры сяленні хутарскіх гаспадарак у многіх калгаснікаў на старых сядзібах засталіся дарослыя пладовыя дрэвы. Калі гэтыя дрэвы не вельмі старыя і здаровыя, то іх з поспехам можна перасадзіць на новыя прысядзібныя ўчасткі. Выбар спосабу выкапкі і перасадкі залежыць ад велічыні дрэў.

Калі дрэвы не вельмі вялікія, то вакол іх на адлегласці 75—100 см. выкапваюць кальцавую яму ў 75—100 см. глыбіні. Усе трапляючыяся пры гэтым карані перасякаюць тапаром і згладжваюць парэзы вострым нажом. Далей падкапваюць зямлю, набліжаючыся да пня дрэва. Зверху і з бакоў зямля асцярожна адбіваецца.

Ямы для пасадкі дрэў капаюцца загадзя, шырыня іх павінна быць на 20—25 см. больш шырыні карнявой сістэмы, а глыбіня—90—100 см. Адначасова падрыхтоўваецца зямля для засыпкі дрэў пры пасадцы. Для гэтай мэты бяруць верхні слой чорнай зямлі і змешваюць з кампостам або добра перапрэлым торфам. На дно ямы насыпаюць слой рыхлай пажыўнай зямлі.

Дрэва асцярожна апускаюць каранямі ў яму. Калі яно апусціцца глыбей чым сядзела на старым месцы, тады пад дрэва падкідаюць некалькі лапат зямлі. Робіцца гэта для таго, каб каранёвая шыйка была вышэй краёў ямы на 6—8 сантыметраў.

Устанавіўшы дрэва, карнявую сістэму засыпаюць зямлёй і час-ад-часу утоптваюць яе. Вакол дрэва ў насыпанай зямлі робяць паглыбленне і наліваюць ў яго 5—6 вядзёр вады.

Пасаджанае дрэва можна прывязаць да кала. Ствол дрэва і тоўстыя часткі асноўных галін кроны неабходна добра акутаць мохам або саламянымі перавесламі. Перавязі трэба часта змачваць вадой, каб не перасыхала кара дрэва. Прыствольны круг трэба пакрыць слоем торфу або гною і так трымаць на працягу ўсяго лета. Гэта садзейнічае захаванню вільгаці ў глебе. Пасля ўсяго гэтага праводзіцца абрэзка кроны дрэва.

Выкапка і перасадка дрэў гэтым спосабам робіцца вясной, але можа быць праводзіма і ўвосень.

Вялікія дрэвы лепш перасаджваць пасля папярэдняй іх падрыхтоўкі. Для гэтай мэты вясной вакол дрэва на адлегласці ў 50—100 см. выкапваюць кальцавую яму каля 60—75 см. глыбіні і такой-жа шырыні. Усе трапляючыяся карані перасякаюць тапаром і згладжваюць парэзы вострым нажом. Яму зноў засыпаюць зямлёй, перамешанай з торфам, перагноем або кампостам, добра паліваюць. Прыствольны круг пакрываецца торфам або гноем. Так дрэва пакідаецца да восені або да наступнай вясны. За лета перасечаныя карані выпускаюць вялікую колькасць маладых карэньчыкаў, якія затым садзейнічаюць лепшаму прыжыванню дрэва, перанесенага на новае месца.

Увосень таго-ж года або вясною наступнага года, дрэва выкапваюць для перасадкі на новае месца. Акопка праводзіцца на 10—16 сантыметраў далей, чым першая, для таго, каб захаваць ўтварыўшыяся за леці перыяд маладыя карэньчыкі.

Можна дрэва перасаджваць і з зямлёй ля каранёў. Для гэтага праводзіцца акопка дрэва, затым каранне разам з зямлёй абіваюць з бакоў дошкамі, падводзяць дно, і дрэва аказваецца ў скрыні. У такім выглядзе яго перавозяць на новае месца.

Догляд за перасаджанымі дарослымі дрэвамі як у першае лета, так і ў наступныя 2—3 годы зводзіцца да ўтрымання глебы вакол ствала ў рыхлым станоўішчы, чыстай ад пустазелля і пакрытай мульчай (торфам, гноем, лісцем). У сухое надвор'е, асабліва ў першы год пасля перасадкі, трэба рабіць паліўку, увільгатняць часцей мох, якім абвернуты ствалы і тоўстае галлё дрэў. Увосень з наступленнем першых замаразкаў усе перасаджаныя дрэвы павінны быць акучаны на вышыню 45—50 см. Акучванне захоўвае карані дрэў ад марозаў, асабліва ў маласнежныя зімы.

Такім чынам усе астаўшыяся на старых хутарскіх сядзібах здаровыя пладовыя дрэвы могуць быць перасаджаны на новыя калгасныя сядзібы. Праз 1—2 годы дрэвы зноў пачнуць даваць ураджаі пладоў.

Аграном К. ХАБЕНКА.




Год І-ы **САХА** № 1



БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Верасень 1930

# Ад рэдакцыі.

У цяжкі мамэнт для нашае вёскі распачынаем мы выданьне нашае часопісі. Пануючы цяпер сельска-гаспадарчы крызіс вельмі шкодна адбіваецца на гаспадарчым стане вёскі. Малая і так даходнасьць сельскае гаспадаркі панізілася да таго, што ня можа быць і мовы аб якім-небудзь поступе ў сучасных умовах. Хутчэй можна спадзявацца эканамічнай руйнацыі нашых вясковых гаспадарак і паступовага пераходу іх зямельнай плошчы ў мацнейшыя капіталам рукі.

Каб гэтага ня сталася, мы мусім напружыць усе нашы сілы для больш дасканальнай арганізацыі, як вырабу, гэтак і збыту. Толькі такім чынам мы зможам лягчэй перажыць сучасны сельска-гаспадарчы крызіс і забясьпечыць на будучыню гаспадарчы поступ нашае вёскі.

Гэтай мэце і будзе служыць „Саха". Каб нашая праца як найбольш прынясла карысьці, заклікаем усё нашае беларускае асьвечанае грамадзянства прыняць актыўны ўдзел у гэтай часопісі. Асабліва зьвяртаем свой заклік да фахоўцаў коопэратараў, аграномаў і эканамістаў.

З другога боку, зьвяртаемся да нашых сялян-земляробаў ня толькі рэгулярна выпісываць гэтую часопісь, але і паведамляць нас аб тых спробах і досьледах, якія наглядаюцца ў гаспадарцы. Трэба, каб гэтая адзіная гаспадарчая часопісь у Заходняй Беларусі стала адбіткам нашага гаспадараваньня і нашых імкненьняў, каб праз гэтую часопісь ня толькі асьвечаны агрprobably ном або коопэратар мог прыйсьці з сваёй ведаю на помач селяніну, але каб здабытае практыкай самога селяніна ў адным мейсцы, сталася здабыткам усяго беларускага сялянства.

Да гэтага мусім дадаць, што нашая часопісь стаўляе сабе мэтаю ня толькі даваць тэхнічныя парады, але будзе імкнуцца да разьвіцьця ў сваіх чытачоў разуменьня прыродных і эканамічных зьявішчаў. Бо толькі веданьне прыродных і

эканамічных законаў дае магчымасьць гаспадару ў кожным канкрэтным выпадку ўжыць найбольш адпаведны спосаб гаспадараваньня.

У вельмі цяжкіх абставінах знаходзіцца наша беларуская прэса, але, прыступаючы да выданьня „Сахі", мы верым у тое, што ўсё сьведамае беларускае грамадзянства падтрымае яе, як адзіны беларускі орган, прысьвечаны вышэйпададзеным мэтам.

---

# Эвалюцыя нашае сельскае гаспадаркі.

Пэўныя гістарычныя абставіны склаліся так, што эканамічнае разьвіцьцё Беларусі затрымалася аж да сёньнешняга дня. Не ўдаючыся ў аналіз тых прычын, якія спрычыніліся да заняпаду нашага Краю, спрабуем толькі ўстанавіць, — ці ў сучасны мамэнт ёсьць належныя перадумовы для яго эканамічнага прагрэсу.

Асноваю нашае народнае гаспадаркі ёсьць, яшчэ знаходзячаеся ў даволі прымітыўным стане, земляробства. Прамысловасьці амаль што зусім няма, а гандаль мае характар пераважна спэкулятыўны.

Для таго, каб эканамічны рост нашага Краю распачаўся, патрэбна: 1) каб прадуктыўнасьць аснаўное галіны нашай народнай гаспадаркі — земляробства, усьцяж павялічвалася і 2) каб значны працэнт творачагася такім чынам народнага даходу тут — капіталізаваўся, арганізуючы адну за другою найбольш рэнтабільнейшыя галіны прамысловасьці.

Дзякуючы пануючаму цяпер сельска-гаспадарчаму крызісу, аб такім працэсе ня можа быць і гутаркі, але мы разгледзім, наколькі наша сельская гаспадарка мае пэўныя дадзеныя, каб такі працэс распачаўся хоць-бы ў бліжэйшай будучыні і што трэба рабіць, каб збыткі сельскае прадукцыі, застаўшыся па задаваленьні жыцьцёвых патрэбаў самога-ж вясковага насельніцтва, як у найбольшай меры капіталізаваліся (ня йшлі на спажываньне, аператвараліся ў сродкі вырабу).

У сучасны-ж мамэнт частка гэтых збыткаў, у працэсе абмену, застаецца ў руках гандлёвае клясы і ідзе выключна на задаваленьне жыцьцёвых патрэбаў гэтае клясы й, такім

чынам, няма ніякае капіталізацыі, няма й эканамічнага прагрэсу.

Сельска-гаспадарчае прадпрыемства, як і кожнае іншае, складаюць тры элемэнты: 1) капітал, 2) праца і 3) арганізуючая сіла, ці прадпрыемца. Вось цяпер паўстае ў нас пытаньне, — якім спосабам падзеяць на гэтыя элемэнты, каб у выніку паўстаў як найбольшы эфэкт, — магчымая максымальная прадукцыя.

Галоўным капіталам нашае сельскае гаспадаркі ёсьць глеба й слабенькі сельска-гаспадарчы інвэнтар. Глебы-ж беларускія галоўным чынам падзолавыя. Характэрнай рысай падзолавых глебаў ёсьць тое, што глебавыя працэсы ў іх праходзяць вельмі хутка і, такім чынам, пераведзеныя ў рошчын глебавыя прадукты выпаласківаюцца дажджом у глыбейшыя слаі глебы. Таму вось нашыя глебы бедны пажыўнымі складнікамі й ураджайнасьць іх слабая. Калі-ж з гэтага пункту гледжаньня ацэніваць нашы грунты, то і цана іх — малая

Аднак каштоўнасьць глебы характэрызуецца ня колькасьцю пажыўных матэр'ялаў у глебе, а ўраджайнасьцю глебы. Ураджайнай-жа глебай бывае ня тая, якая мае ў сабе як найбольш пажыўных складнікоў, а тая, якая патраціць як найбольш пажыўных складнікоў перавесьці ў рошчын, бо расьліны бяруць з зямлі пажыўныя складнікі толькі ў рашчыненай форме.

Для добрага росту расьліны ня так ужо шмат пажыўных складнікоў у зямлі і трэба. Пры належнай колькасьці вады і належным доступе паветра ў глебу можна і пры малым ліку мінэральных пажыўных складнікоў дасягнуць вялікіх ураджаяў. З гэтага пункту гледжаньня, разглядаючы нашыя грунты, трэба прызнаць, што яны ёсьць найдасканальнейшай машынай для перавядзеньня глебавых прадуктаў і гнаёў у пажыўныя формы для расьлін.

Дасягненьне вялікіх ураджаяў вымагае адпаведнага ўгнаеньня і пільнай абробкі глебы, а гэта значыць—інтэнсыўнага гаспадараваньня.

Адсюль вывад, што сама прырода вызначыла нашаму селяніну інтэнсыўны спосаб гаспадараваньня. Да некаторай ступені бачым мы й цяпер, што нашыя сяляне вядуць больш інтэнсыўную гаспадарку, чым некаторыя з нашых суседзяў. Нездарма праф. А. М. Чалінцаў, раёнуючы С. С. С. Р., паста-

віў Беларусь на першае мейсца па інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі.

К таму трэба дадаць, што сусьветны рынак на сельска-гаспадарчыя прадукты задавальняўся галоўным чынам прадуктамі вырабленымі экстэнсыўным спосабам. Прамысловыя-ж краіны, якія імкнуліся інтэнсыўным спосабам вырабіць у сябе як найбольш сельска-гаспадарчых прадуктаў, мусілі вялікімі ўвознымі мытамі бараніцца ад канкурэнцыі.

Пры павялічэньні людпасьці, а гэтым самым і попыту на сельска-гаспадарчыя прадукты, інтэнсыўны спосаб гаспадараваньня паступова запануе ўва ўсіх краінах. Такая тэндэнцыя памячаецца ўжо і цяпер. Пры такім становішчы глебы, надаючыяся да інтэнсыўнага способу гаспадараваньня, будуць і даходнейшымі.

Другім-жа элемэнтам прадпрыемства ёсьць праца. Аб павялічэньні гэтага элемэнту гаварыць ня прыходзіцца, бо працавітасьць беларусаў агульна вядомая.

Застаецца трэці элемэнт — гэта арганізуючая сіла, ці прадпрыемца. У нашай гаспадарцы прадпрыемца і работнік злучаюцца ў аднэй асобе дзякуючы тым малым аб'ектам свайго гаспадараваньня, якімі яны валадаюць.

Арганізатарскае ўменьне, зразумела, у нашага селяніна малое. Дый няма дзіва, пры такой малакультурнасьці і такім малым вымеры абраблянай нашым селянінам зямельнай плошчы інакш і не магло быць.

Арганізатарская праца ёсьць вышэйшая форма людзкое працы й ацэніваецца ў вырабе вельмі высака. Толькі здольныя арганізатары, кіруючы рознымі фактарамі вырабу, могуць на затрачаны капітал і працу здабыць магчымыя максымальныя вынікі. І зразумела, што з прадпрыемстваў, працуючых у аднолькавых аб'ектыўных умовах, адны вытрымліваюць канкурэнцыю й разьвіваюцца, а другія банкрутуюць. Пры добрай арганізацыі капіталу й працы, прадпрыемствы часта й з адсталай тэхнікай могуць лёгка канкураваць з прадпрыемствамі з найдасканальнейшым тэхнічным азбраеньнем.

Прыймаючы пад увагу ўсё вышэйсказанае і тое, што наш Край ёсьць бедны прыроднымі багацьцямі, мы мусім усе іншыя недахопы выраўняць удасканаленай формай арганізацыі капіталу й працы.

Дасканальна-ж арганізаваны выраб і збыт прадуктаў

нашай сельскай гаспадаркі, а таксама карыстаньне ўсімі здабыткамі навукі й тэхнікі магчымы толькі ў тым выпадку, калі наша вёска будзе скоопэратызавана.

Толькі тады, карыстаючыся збыткамі сельска-гаспадарчых прадуктаў, застаўшыхся па задавальненьні жыцьцёвых патрэбаў вёскі, коопэратыўныя цэнтры здолеюць паступова арганізаваць сельска-гаспадарчую прамысловасьць, якая яшчэ больш будзе павялічываць даходнасьць нашай вясковай гаспадаркі.

Пастаўленыя намі заданьні ажыцьцёвіць ня так лёгка, але мы не павінны апускаць рук перад іх труднасьцю. Нашыя прыродныя ўмовы стаўляюць нас у такое становішча, што мы мусім вырашыць труднейшыя цяпер праблемы, знайсьці найдасканальнейшыя спосабы арганізацыі капіталу й працы, бо толькі ў гэтым ёсьць парука нашай лепшай будучыні.

С. Б.

---

# Значэньне коопэрацыі у жыцьці працоуных масау.

Да гэтага часу ў гушчы беларускіх працоўных масаў можна заўважыць недаацэнку коопэратыўнага руху, што тлумачыцца толькі малаю сьведамасьцю гэтых масаў. Многа вінаваты ў гэтым сумным зьявішчы і сучасныя палітычныя ўмовы жыцьця на нашых землях, але слабое разьвіцьцё коопэратыўнага руху ў нас вытлумачыць толькі аднымі палітычнымі ўмовамі краю—было-б з нашага боку вялікаю памылкаю. Асноўную прычыну трэба ўсё-ж такі шукаць у нашай вельмі слабой самадзеяльнасьці й нярухлівасьці.

Побач з сабою мы маем, напрыклад, украінскія землі, дзе коопэратыўны рух пусьціў у народным жыцьці глыбокія карэньні, дзе істнуюць тысячы коопэратываў, дзесяткі коопэратыўных союзаў, выдаюцца кооп. часопісі, арганізуюцца курсы, школы і г. д., дзе значная частка ўкраінскай інтэлігэнцыі й сьведамага сялянства вядзець коопэр. працу на карысьць свайго народу. А ў гэты самы час—у нас поўны застой, і толькі за апошнія часы мала-памалу, і то ня ўсюды, абуджаецца зацікаўленьне да коопэрацыі.

Трэба яшчэ патраціць шмат высілкаў, каб гэты рух прыняў адпаведны размах і перадусім патрэбна, каб само жыхарства зразумела тую вялікую ролю, якую адыгрывае коопэрацыя ў эканамічным жыцьці працоўных.

Усялякая коопэратыўная арганізацыя маець сваёй безпасярэднай мэтай палепшыць матэр'яльнае палажэньне скоопэратызаванай часткі жыхарства. Калі мы маем перад сабою напр. крэдытнае

таварыства, то, згодна аснаўному свайму заданьню, яно абслугоўвае жыхароў у сфэры крэдыту й вядзе барацьбу ў першую чаргу з ліхвярствам.

Наўрад ці прыходзіцца гаварыць аб тым, якое ад'емнае значэньне ў гаспадарчым жыцьці працуючых адыгрывае ліхвярства, якое ў шмат якіх выпадках зусім падрываець дабрабыт сялянскай масы.

З росквітам крэдытнай коопэрацыі паразытыстычная кляса ліхвяроў губіць грунт пад нагамі, а гэтым самым і сялянская гаспадарка звальняецца ад самай цяжкой формы эксплёатацыі, якая толькі магчыма пры сучасных умовах.

У іншых выпадках, пры гэтак званай грашовай цеснаце, малазямельнаму селяніну няма агулам ніякай магчымасьці карыстацца крэдытам, ня гледзячы на крайную ў ім патрэбу, — і вось у гэтым выпадку яму на падмогу прыходзіць крэдытная коопэрацыя, якая адчыняець крэдыт за адносна малы працэнт і даець яму магчымасьць выкарыстаць атрыманыя сродкі на прадукцыйныя мэты.

У сваю чаргу, спажывецкая коопэрацыя, — маючы сваю мэту скоопэратызаваць абмен—арганізуець спажывецкія крамы, гаспадаром якіх зьяўляюцца самі коопэратары. У добра пастаўленых коопэратывах, тавар, звычайна, бываець лепшага гатунку й прадаецца таней, чым у суседніх прыватных крамах.

Жыхарства маець у гэтым выпадку яшчэ й тую выгаду, што звальняецца ад той павуціны, якою яго апутваець спэкуляцыя й з якой няма падчас ніякай магчымасьці вызваліцца.

Здавалася-б, што нават адна гэтая акалічнасьць, як незалежнасьць ад спэкуляцыі, якая параскідала свае сеці на ўсё працуючае жыхарства—павінна сама па сабе служыць выстарчаючай прычынай да таго, каб самым энэргічным спосабам узяцца за коопэратыўнае будаўніцтва.

Спэкулянты розных гатункаў бачаць у коопэрацыі свайго сьмяротнага ворага й дзеля гэтага ўсімі сіламі стараюцца яе прыдушыць.

Карыстаючыся з нашай малакультурнасьці і застасоўваючы самыя брудныя мэтады барацьбы, уключна да ілжывых палітычных даносаў на коопэратыўных дзеячоў і подкупаў—яны стараюцца ў самым зародку прыдушыць наш коопэратыўны рух.

К сораму нашаму, трэба прызнаць, што вельмі многія людзі яшчэ да гэтай пары знаходзяцца пад уплывам гэтых варожых нам сілаў і палохаюцца прыступіць да коопэратыўнае працы.

У шмат каго пры такіх акалічнасьцях апускаюцца рукі, і прападае вера ў свае ўласныя сілы.

Трэба скінуць прэч з сябе гэтыя шкодныя для агульнай справы настроі й смела прыступіць да працы, трэба за ўсялякую цану старацца вызваліцца з пад ярма эксплёататараў розных гатункаў — і ў гэтым знаходзіцца парука нашай лепшай будучыні.

Гісторыя іншых народаў нам паказала, што такое заданьне, як вызваленьне з пад ярма прыватнага гандляра й арганізацыя коопэратыўнага гандлю—зусім даступна й магчыма для працуючых масаў нават пры існуючых сацыяльна-палітычных умовах жыцьця. Пры энэргічнай працы з нашага боку й сьвядомых адносінах да справы—праз якіх небудзь 10—15 гадоў і мы маглі-б дабіцца таго, што знач-

ная частка гандлю была-б вырвана з рух мястэчковых спэкулянтаў і ператворана ў коопэратыўную. Возьмем цяпер такую гаспадарчую апэрацыю—як продаж зярна, воўны, яек, агародніны і т. д., дзе кожны селянін, пры адсутнасьці коопэратыўнае арганізацыі, выступаець на рынку самастойна і дзе рызыкуе кожны дзень быць ашуканым з боку першага лепшага спэкулянта.

Пры істнаваньні асобнага коопэратыву па збыту с.-г. прадуктаў гэтая небяспека адпадае й кожны гаспадар дастаець за свой тавар сярэднюю рыначную цану.

Цэлы рад выгадаў для працуючага сялянства злучаны з істнаваньнем такого роду коопэр. аб'еднаньняў, якія ўжо на практыцы праверены і аб якіх мы яшчэ будзем гаварыць у сваім часе.

Дзякуючы адсутнасьці адпаведных коопэратываў, многія галіны гаспадаркі ў нас зусім не пастаўлены так, як іх можна было-б паставіць нават пры нашых цяжкіх эканамічных варунках. Возьмем для прыкладу хоць-бы гадоўлю малочнай жывёлы й малочную справу нагул. Усім вядома, у якім сумным палажэньні знаходзіцца ў нас гэтыя галіна гаспадаркі. У такім прыблізна стане яна знаходзілася і ў іншых краёх да таго часу, пакуль там ня была арганізавана і належна пастаўлена малочная коопэрацыя, дзе яна цяпер, як напрыклад у Даніі, — даець аграмадныя даходы сялянству. Дацкія сяляне, злучыўшыся ў масладзельныя таварыствы, — пабудавалі свае кооп. масладзельныя заводы, дзе вырабляюцца найлепшыя гатункі масла, якое ідзець у Англію й іншыя прамысловыя краіны.

Рацыянальная пастаноўка малочнай гаспадаркі стварыла фундамэнт для дабрабыту дацкага селяніна.

Больш таго, сама жывёлагадоўля, дзякуючы коопэрацыі, прыняла зусім іншы выгляд: распаўсюдзіліся палепшаныя пароды малочнае жывёлы, павялічыўся ўдой у некалькі разоў у параўнаньні са старым, да-коопэратыўным часам і т. п.

За пасярэдніцтвам сваіх арганізацыяў дацкія коопэратары зьвяртаюць увагу ня толькі на эксплёатацыю малочнае жывёлы, але клапацяцца і аб яе гадоўлі, рацыянальным доглядзе за ёю, правідловым кармленьні і г. д.

У гэтых адносінах у нас на Беларусі цэлае мора непачатай працы. Амаль ня чуваць, каб дзе небудзь у нас істнавала хоць-бы адна добра пастаўленая малочная арцель, а аб моцных саюзных арганізацыях нават няма й паміну.

Нічога няма дзіўнага дзеля гэтага, што малочная гаспадарка ў нашым жыцьці маець такое мізэрнае значэньне. У гэтай галіне нашым коопэратарам, якіх на жаль так мала, трэба пачынаць працу з самага пачатку, трэба прыступаць да будовы на голым, пустым мейсцы.

Праца гэтая вельмі цяжкая, але няма падставаў апускаць рукі— і ў іншых краёх палажэньне было ня лепшае: у той-жа самай Даніі быў такі час, калі сялянства было прыблізна на такім-жа культурным роўні, як і нашае беларускае і пра коопэрацыю ня толькі нічога ня знала, але і слухаць не хацела.

Прайшлі аднак гады—з часам яно пераканалася на сваім жыцьцёвым досьледзе, што можа даць для яго гаспадаркі кооп. арганіза-

цыя,—і цяпер у Даніі амаль кожны селянін мог-бы быць вучыцелем коопэрацыі ў нашых вёсках. Там няма цяпер такога сялянскага двара, які тым ці іншым спосабам ня быў бы злучаны з коопэратыўным аб'еднаньнем, атрымліваючы ад ято пэўныя матэр'яльныя карысьці; няма селяніна, які-бы ня верыў у сілу й значэньне коопэрацыі дзеля таго, што на досьледзе дазнаўся, якую аргамадную карысьць яна прыносіць для сялянскай гаспадаркі.

Усім вядома цяпер—якую вялікую ролю маюць у сялянскай гаспадарцы машыны —напр. жнеялкі, селялкі, паравыя малацілкі і т. п., даступныя толькі абшарніцкім гаспадаркам, па прычыне сваёй даражыні.

Аднак ёсьць магчымасьць і дробнай гаспадарцы карыстацца тымі выгадамі, якія злучаны з управаю зямлі і ўборкаю ўраджаю пры дапамозе с.-г. прыладаў-машын.

Магчымасьць гэта даецца толькі шляхам арганізацыі асобных машынных коопэратываў, якія на агульныя сродкі сваіх сяброў набываюць с.-г. машыны а затым на пэўных варунках аддаюць іх у карыстаньне паасобным гаспадаркам.

Цяжка, бязумоўна, гаварыць у нашых умовах пра арганізацыю такіх, напрыклад, коопэратыўных аб'еднаньняў, як італьянскія арэндныя таварыствы.

Гэтыя апошнія складаюцца, па большай частцы, з беззямельных і малазямельных сялян, якія бяруць на кооп. пачатках вялікія зямельныя плошчы, і затым гуртам абрабляюць іх, маючы ў сваіх руках усе тэхнічныя сродкі й свой агранамічны пэрсанал.

Лятуцець аб падобных арганізацых на беларускіх землях пакуль што зарана, але, у кожным выпадку, падумаць аб іх не пашкодзіць, асабліва тады, калі іншыя, балей простыя, формы коопэратыўнай арганізацыі ў нас узмацняцца і пусьцяць глыбокія карэньні.

Прысутнасьць шматлічнае клясы беззямельных і малазямельных сялян з аднаго боку, а з друго боку істнуючыя магчымасьці выдзержаўленьня зямельных абшараў—твораць такія ўмовы, пры якіх, на пэўнай стадыі коопэратыўнае культуры насяленьня, магчыма будзе прыступіць і да гэтай формы коопэратыўных аб'еднаньняў. Вось такія, прыблізна, тыя безпасярэднія карысьці, якія даюць працоўным масам пералічаныя намі галіны коопэратыўнае дзеяльнасьці.

Аднак, маючы на ўвазе цяперашнія агульна-эканамічныя варункі сусьветнае сельскае гаспадаркі, і тыя варункі, у якіх апынулася працуючая маса сялянства—гэта яшчэ далёка ня ўсё, што мы можам вымагаць ад коопэрацыі.

Асаблівае значэньне набываець г. зв. сельска-гаспадарчая коопэрацыя ў відзе напрыклад масладзельных коопэратываў, гурткоў сумеснай абробкі зямлі, таварыскіх элеватараў і т. п. Усе гэтыя арганізацыі, памінаючы тое, што даюць безпасярэдныя матэр'яльныя карысьці сваім супольнікам,—рэфармуюць,ператвараюць самую сялянскую гаспадарку, павялічваюць у ёй пракдукцыйнасьць працы. Практыка сельскае гаспадаркі паказала, што буйныя гаспадаркі балей прадуктыўны чым малыя—і вось, дзякуючы розным галінам коопэратыўных аб'еднаньняў — малыя сялянскія гаспадаркі маюць магчымасьць убуйніць гаспадаркі і гэтым самым павялічываць выдай-

насьць зямлі й працы. У той-жа Даніі мы знаходзім наглядныя доказы гэтаму цьверджаньню. Так, па словам вядомага коопэратара Умана, які абсьледаваў коопэрацыю ў Даніі: земляробства дробных гаспадарак аказалася там „больш прадуктыўным, чым вялікіх, прытым асабліва значна павялічэньне ўраджайнасьці збожжа і зялёных кармоў“ (Ю. Уман. „Сел. гаспадарства Даніі“. Ст. 60, 1927 г.).

Адпаведна да гэтага малыя гаспадаркі даюць параўнаўча больш даход, чым буйнейшыя. Так напр. у 1924/25 г. гаспадарка да 10 гэкт. дала даходу 1549 карон на 1 гэктар, у той час як гаспадарка ад 50 да 60 гэкт.—817 кар., а гаспадаркі балей 100 гэкт.—усяго толькі—697 кар.

Гэткія пасьпехі ў дробных сялянскіх гаспадарках Даніі дасягнены толькі дзякуючы скоопэратызаваньню многіх галінаў гаспадарчага жыцьця. На прыкладзе гэтага краю мы бачым, што малая сялянская гаспадарка эканамічна перавысіла буйную, дзякуючы паказанай намі прычыне. — Зразумела, што ня ўсюды можна заўважыць такое спрыяючае палажэньне, выкліканае асобымі ўмовамі, у якіх знаходзіцца Данія, але, у кожным выпадку, для нас бязсумліўна тое, што с.-г. коопэрацыя пры ўсялякіх умовах аказвае свой дабратворчы ўплыў на сялянскую гаспадарку, аб'ядноўваючы яе ў розныя саюзы й гэтым самым убуйняючы паасобныя галіны й падымаючы іх выдайнасьць.

У зьвязку з шырокім распаўсюджаньнем коопэратыўных арганізацыяў сярод сялянскіх масаў—мяняецца і псыхолёгія гэтых апошніх, жыўшых да гэтага часу ў сваім зачыненым гаспадарчым коле, прызвычаеных на працягу вякоў да паасобнага вядзеньня сваёй беднай гаспадаркі.

Пад уплывам коопэрацыі, у яго ідэолёгіі наступае пэўны пералом і селянін прывучаецца думаць грамадзкімі катэгорыямі, да чаго яго змушаюць новыя гаспадарчыя абставіны.

З мамэнту арганізацыі коопэратыўнага прадпрыемства, дзе ён зацікаўлены на роўных правох з іншымі сябрамі, — ён паступова ўцягваецца ў сфэру коллектыўных інтэрэсаў і раўналежна да гэтага наступае працэс перараджэньня яго псыхікі.

І ў гэтым адношаньні наглядаецца заканамерная паступовасьць—працэс гэты разьвіваецца раўналежна да разьвіцьця й урастаньня ў экономіцы коопэр. формаў гаспадаркі.

Раптоўных пераскокаў тут ня можа быць і, у гэтым выпадку, як, і ў іншых—„ня можна — як кажа К. Каўцкі — „пераскочыць ні праз адну стадыю разьвіцьця і зрабіць напр. такі цуд, каб адразу з індывідуальнага ўласьніка атрымаць пераконанага коллектывіста“.

На ўсё патрэбны час і адпаведныя эканамічныя абставіны, а такімі абставінамі, якія перараджаюць псыхолёгію селяніна на грамадзкую—і зьяўляецца якраз прысутнасьць коопэратыўных арганізацыяў.

Такія вось нашыя адносіны да коопэрацыі, як да сілы, якая прыносіць ня толькі безпасярэднія матэр'яльныя карысьці працоўным масам, але разам з тым творыць грунт, на якім у будучыні разаўюцца новыя, больш дасканальныя, гаспадарчыя формы.

З гэтага пункту гледжаньня на асаблівую ўвагу ў нашых умовах заслугоўвае сельска-гасп. коопэрацыя, якая апрача ўсіх сваіх дадатніх свомасьцяў,—зьяўляецца яшчэ недараўнаным і пакуль што адзіным мэтадам рэканструкцыі сучаснае сялянскае гаспадаркі на больш рацыянальных падставах.

Аб гэтых свомасьцях коопэрацыі мы будзем мець яшчэ магчымасьць вясьці гутарку на старонках нашай часопісі.

**Ф. Акінчыц.**

---

# Маральныя падставы коопэрацыі.

Коопэрацыя, гэта — соцыяльная форма, якая творыцца ўва ўсіх дзяржавах на груньце эканамічных патрэбаў працоўных масаў. Аднак было-б памылкай думаць, што толькі адны матэр'яльныя патрэбы як-бы аўтаматычна заўсёды прыводзілі да аўтаматычнага ўзьніку коопэратываў.

Мы часта ў жыцьці бачым, як разнаяка адбіваецца матэр'яльная нястача на розных людзях: у адных яна загартоўвае дух, падымае энэргію, зьбірае ўсе высілкі, каб адстаяць істнаваньне сваё й сям'і; на другіх яна ўплывае разслабляюча, паралiжуе іх энэргію, робіць апатачнымі, няздольнымі да барацьбы за лепшую будучыню.

З найвялікшым посьпехам коопэрацыя можа ўзьнікнуць там, дзе бяду церпяць людзі маральна здаровыя, дзе ў барацьбу з эканамічнай нэндзай уступаюць характэры рашучыя й сільныя.

Патрэба можа быць толькі прычынай для стварэньня коопэратываў, сіла-ж, якая сапраўды можа стварыць і пашырыць іх істнаваньне й разьвіцьцё, караніцца ў душах людзей, у іх характэрах.

І гэта зусім не прыпадкова, што ўва ўсіх старонках бачым у пачынаньнях і на чале коопэрацыі людзей, вырозьніваючыхся сілай духа, моцнай любоўю да чалавецтва, верай у значэньне праўды й справядлівасьці.

Гэтыя моцныя духам людзі сьмела ідуць на спатканьне ўсялякім перашкодам і часта гатовы прынясьці сябе ў ахвяру за магчымасьць палепшаньня матэр'яльнага дабрабыту грамадзянства.

Хто хоць павярхоўна азнаёміўся з гісторыяй коопэрацыі, той зразумее, што падставы коопэрацыі маюць перад усім маральны характэр, што коопэрацыя можа істнаваць толькі там, дзе яе разьвіцьцём кіруюць высока чэсныя адзінкі.

Там-жа, дзе істнуе эгаізм, імкненьне выключна да ўласнае карысьці, коопэрацыя разьвівацца ня можа й ператвараецца ў карыкатуру. Сувязь коопэрацыі з этыкай стане зусім зразумелай, калі прадставім сабе, што коопэрацыя па сваёй сутнасьці ёсьць зьдзейсьненьнем **прынцыпу салідарнасьці.**

Яна імкнецца да таго, каб згуртаваць народ у адну дружную вялікую сям'ю, зьнішчыць клясовыя, нацыянальныя й палітычныя спрэчкі, даючы тыя правы кожнаму індывідыюму й накладаючы тыя абавязкі, пры якіх людзі мелі-б магчымасьць лягчэй пераживаць усе труднасьці й пабрацку карыстацца матэр'яльным прыбыткам.

Коопэрацыя ёсьць згода, а дзеля гэтага, яна, бязумоўна, прымушае людзей ува ўсім шукаць згоды й узаемапомачы. Там, дзе разьвіваецца коопэрацыя,—няма падставаў для істнаваньня праціўлежных інтэрэсаў, а дзе інтэрэсы людзей згодны, там няма прычынаў для спрэчак, барацьбы і т. д.

Калі коопэрацыя — згода, дык яшчэ з большым правам можна сказаць, што коопэрацыя — свабода й дабрабыт.

Аднак гэтую свабоду нельга мяшаць з неабмежаваным панаваньнем сваекарысных мэтаў. Такой свабоды коопэрацыя не дае; наадварот: яна накладае на сваіх сяброў абавязкі, якія яны павінны выконываць для карысьці агульнае справы. Але ў гэтым абмежаваньні асабістае волі і ёсьць крыніца запраўднае свабоды, якая й выяўляецца ў дабравольным падпарадкаваньні агульным законам, праву й маралі. Свабоды няма там, дзе ёсьць самаволя. Свабодны ня тыя, хто робіць, што хоча, а тыя, хто ведае, што яны павінны рабіць і падпарадкавацца гэтым абавязкам бяз вонкавага прымусу.

Разам з свабодаю коопэрацыя дае сваім сябром дабрабыт, г.зн. забяспечывае іх матэр'яльнае становішча, дае разумнае задаваленьне іх фізычных і духовых патрэбаў. Усе яе правілы скіраваны да дасягненьня іменна гэтае мэты. Галоўная мэта коопэрацыі — устанаўленьне такога ладу, пры якім усе людзі былі-б яе сябрамі і знаходзілі-б у ёй працу адпаведна свайму жаданьню й здольнасьцям.

Звычайна, людзі, запісываючыся ў сябры коопэратываў, не заўсёды разумеюць, што яны ўваходзяць у новы, вышэйшы сьвет, дзе кіруюць законы лепшага жыцьця.

Коопэрацыя толькі тады можа ўтварыць больш рацыянальнае й добрае гаспадарчае й грамадзкае жыцьцё, калі ўсе зразумеюць яе ідэі. Кожны коопэратыў будзе толькі тым, што з яго зробяць яго сябры.

Пры адсутнасьці маральных падставаў коопэрацыя ня можа разьвівацца, ня можа нясьці сваю помач людзям калі сябры будуць маніцца выкарыстаць яе коштам сваіх блізкіх, калі яны захочуць толькі браць, нічога не даючы, калі яны будуць ахвотна пажынаць плады працы сваіх сяброў, а самі — ухіляцца ад выкананьня сваіх абавязкаў.

Коопэратывы нельга садзіць на кожным груньце. На зацьвярдзеўшым ад эгаізму і пакрытым каменьнямі жорсткасьці й несправядлівасьці груньце коопэрацыя ня пусьціць карэньня.

Наадварот: там, дзе ў грамадзянстве якога-небудзь места ці вёскі пануюць салідарнасьць, разуменьне свайго абавязку й сумленнасьць—коопэратыў у кароткі час узмацніцца й дасьць добрыя вынікі. Дзеля гэтага можна сьмела казаць, што разьвіцьцё коопэрацыі ў якой небудзь краіне зьяўляецца доказам маральнага роўня яе грамадзянства.

Той ці іншы народ ня можа нічым даць лепшага доказу аб сваім характэры, як сваёю здольнасьцю давесьці коопэрацыю ў сваім краі да належнага разьвіцьця.

І калі народ імкнецца дасягнуць гэтага, дык ён працуе ня толькі для свайго ўласнага дабрабыту і дабрабыту наступных пакаленьняў, але й для зьдзейсьненьня ідэалу: „На зямлі мір“.

**Сьвяшч. А. Коўш.**

# Эканамічны мамэнт на Беларусі.

Мы жывем і працуем у часы самага грубога матэр'ялізму, які пасьля вайны стаўся першапрычынай усіх пачынаньняў. Дзеля гэтага кожнае гаспадарства, кожная краіна імкнецца да поўнага гаспадарчага асамастойненьня, што ёсьць парукай таксама й культурнага дабрабыту. Буйны ўзрост прамысловасьці ў Заходняй Эўропе, Злучаных Амэрыканскіх Штатах ды іншых краінах даў магчымасьць уцягнуць усе вытворчыя сілы розных народаў на сусьветны рынак. Уцягнута сюды таксама й Беларусь, як аграрная, альбо інакш кажучы сельска-гаспадарчагая старонка. Але ў той час, як іншыя краіны, дзякуючы сваёй палітычнай незалежнасьці, здольны рэгуляваць прадукты ўвозу й вывазу дзеля ўзбагачэньня свайго народу, мы, беларусы, пастаўлены ў варункі надзвычайна цяжкія, у варункі выключна старонкі эксолёатаванай (выкарыстоўванай). Галоўная прычына гэтага —ізноў-жа палітычны падзел Беларусі, як суцэльнай этнографічнай краіны, якая мае сваю асаблівую геаграфічна-эканамічную індывідуальнасьць. Потым ідзе цэлы рад іншых прычынаў, як напр.: нашая культурная адсталасьць, гаспадарчы прымітывізм, які памалу ўжо адходзіць у забыцьцё, а галоўнае — выцякаючая адгэтуль беднасьць.

Беларусь цяпер па частках уцягнута таксама ў гаспадарчы абег Польшчы, СССР і Латвіі і ўва ўсіх гэтых гаспадарствах зьяўляецца як-бы бясплатным прыдаткам — колёніяй. Эксплёатацыя ня толькі натуральных багацьцяў краю (лясоў у першую чаргу), але й фізычнай сілы беларусоў, асадніцтва чужынцаў на беларускіх землях ды шмат іншых фактаў гавораць самі за сябе. У сваім паходзе галоўным чынам ангельскі й амэрыканскі капітал праз узалежненыя ад яго гаспадарствы, якім належыць Беларусь, хоча здушыць нашыя праявы існаваньня. Праўда, гэта ня робіцца проста, але ўкосным спосабам.

У абарону-ж нам, беларусам, трэба паставіць пляновую працу **ўзьмацаваньня эканамічнага.** Праграмай на першы пачатак павінен служыць лёзунг: „Беларускія землі й багацьці — толькі беларускаму народу!“ Другі лёзунг, які між іншым Чэхі выставілі пад час свайго адраджэньня й верныя яму аж дагэтуль: „Праца й ашчаднасьць'“; а ўрэшце: „Рацыянальная гаспадарка'“.

Тлумачэньняў да гэтага шмат ня прыходзіцца прыводзіць: яны самыя сабой вынікаюць. Больш трэба самадзейнасьці й ініцыятывы, больш увагі коопэратывам, банкам, агранамічнай літэратуры, якая яшчэ можа задаволіць нашыя толькі элемэнтарныя запатрабаваньні,— тады будзе ў нас больш магчымасьцяў да хутчэйшага асягненьня поўнае й усебаковае эканамічнае незалежнасьці. Грошы дадуць нам магчымасьць будаваць Беларусь так, як вымагае XX сталецьце, а не „на касьцёх бедных беларускіх самаахвярдікаў — ідэалістаў”.

* * *

Закід нашых непрыцеляў аб беларускай гаспадарчай няздольнасьці (праўда, часта нічым ня ўгрунтаваны, зусім беспадстаўны), цяжка ў гэты мамэнт разьбіць з прычыны нястачы поўных і нетэн-

дэнцыйных статыстычных крыніцаў. Але можна і з агульнай нашай прыродна-геаграфічнай кон'юнктуры зрабаіць пэўныя вывады.

Беларускі край, абымаючы 326 тысячаў кв. км., мае нязвычайнае множства відаў сельска-гаспадарчае й прамысловае вытворчасьці. Праўда, тут ня прыходзіцца гаварыць аб колькасьці й якасьці гэтае вытворчасьці нашага краю, але тады трэба ўзяць пад увагу нашыя асаблівыя геаграфічныя й палітычныя варункі. Будучы арэнай змаганьня й крыжаваньня двух адвечна варожых сілаў—усходу й захаду ў культурным разуменьні, Беларусь заняла важнае фізычна-геаграфічнае пераходнае мейсца. У гэтым крыецца шмат бачынак дадатніх, але разам з гэтым і цяжкіх да выпаўненьня беларускім народам. Беларуская сплецістая водная сетка з гістарычным „вялікім водным шляхам", беларуская лясіста-балоцістая асаблівасьць, знаная ўсяму сьвету ў пастаці беларускага Палесься й пушчаў з вельмі багатай фаўнай (зьвярынай) ды шмат іншых, вызначала Беларусь у мінуўшчыне й прарочыць ёй вялікую эканамічную здольнасьць. А гэта тым балей, што народ беларускі абуджаецца да новага жыцьця. Цяпер, калі Зах. Эўропа задыхаецца ў сваёй фабрычна—заводзкай прамысловасьці, калі перанасяленьне змушае да барацьбы за кожную пядзь зямлі, аб'яўляючы „drang nach Osten",—мы яшчэ на доўгі час забясьпечаны ад гэтага поўнага перанасяленьня. Даволі сабе ўспомніць, што ў нас на Беларусі ў сярэднім прыпадае толькі 36 асоб на адзін кв. км.—у той час, як зямлю паводле ўжыткоўнасьці можна падзяліць: 40% — ральля, 20% — сенажаці, 30% — лясы, — 8% — няўжыткі, 2% — іншае. Бяда толькі, што падзел зямлі ў нас між насельніцтвам — абсалютна ненармальны.

Беларускае сялянства, якое складае 90% усяго жыхарства на Беларусі, мае вялікую працаздольнасьць; дзеля гэтага трэба верыць, што неўзабаве, перамогшы ўсю сваю дасюляшнюю консэрватыўнасьць і гаспадарчы прымітывізм (а таксама й духовы), — яно здоляе выйсьці на шлях шырокага будаўніцтва. Трэба толькі, каб пачалася ўрэшце грунтоўная перастройка нашых зямельных адносінаў.

Трэба думаць, што старая сыстэма гаспадаркі (трохпалёўка, лядавая ды інш.) хутка адойдзе ў забыцьцё. Агранамічная літэратура мусіць паказаць і зьніштожыць усе тыя злыбяды, якія ўкараніліся ў нашым краі, мусіць навучыць таксама змагацца з эксплёатацыяй чужынцамі, асабліва пры закупцы вядомага ўсяму сьвету таннасьцю сваей беларускага лёну, лесу й скаціны; мусіць прывучыць прыглядацца да курсу на міжнародным рынку. Урэшце зьвярнуць трэба ўвагу на забясьпечаньне хатняга вырабу, як напр.: ганчарства, ткацкіх вырабаў ды інш., разьвіцьцё рыбалоўства, а разам з тым на разьвіцьцё ўсіх відаў беларускае прамысловасьці й гандлю. Бяз гэтага мы ніколі мя зможам быць заможным народам, а будзем у сваім краі батракамі. А галоўнае, што ў першую чаргу важна, трэба ўпарта працаваць праз беларускую коопэрацыю.

**Д-р М. Ільяшэвіч.**

---

# Зялёны гной.

З усіх прапанаваных гнаёў, якія радзяць селяніну ўжываць побач з хлеўным гноем, найпаважнейшае мейсца ў нас, на Беларусі, займае зялёны гной. Найбольш ужываным зялёным гноем у нас лічыцца лубін. Ня гледзячы на тое, што лубін стаў у нас знаны ня так ужо даўно, з году ў год заваёўвае ён у нас усе большую і большую частку пасеўнае плошчы.

Прычынаю-ж таго, што наш селянін так лёгка прызнаў лубіну права называцца гноем, трэба лічыць перш за ўсё добрыя вынікі, якія даюць зялёныя гнаі на нашых пераважна пяшчаных глебах і падругое, што зялёны гной можа вырабляцца тут-жа ў самой сельскай гаспадарцы.

Мудрасьць старых людзей, што зямля радзіла да тае пары, пакуль каморнікі не перайшлі яе з жалезным ланцугом, перастае быць мудрасьцью. Сяляне патроху пачынаюць усьведамляць, што зямля будзе заўсёды радзіць, калі яе толькі добра гнаіць і абрабляць.

Аднак купля дарагіх штучных гнаёў пры нізкай цане на сельска-гаспадарчыя прадукты будзе не заўсёды пад сілу нашаму селяніну.

Таму ўжываньне зялёных гнаёў з'яўляецца амаль што не адзіным ратункам для нашага гаспадара.

Лубін, як і іншыя легумінозы (матылякветыя) вызначаюцца тым, што ў карэньнях іх шмат месьціцца бактэрый, якія спажываюць азот з паветра і такім чынам зямля ўзбагачаецца ў азот.

Вось дадзеныя праф. Ю. Стакласы, колькі кожная з легумінoз пакідае з сваімі карэньнямі азоту на гэктар

| | | |
|---|---|---|
| люцэрна (medicago sativa) . . . | 180 | kg. |
| канюшына . . . . . . . . . . . | 214 | „ |
| гарох . . . . . . . . . . . . | 66 | „ |
| лубін . . . . . . . . . . . | 70 | „ |

Азоту амаль што заўсёды не хапае ў глебе таму, што солі яго лёгка рашчыняюцца ў вадзе і дажджавою вадою выпаласківаюцца з глебы.

Азот ёсьць вельмі патрэбны для росту расьліны. Без азоту ў глебе расьліна ня будзе расьці, а загіне. К таму трэба дадаць, што ўраджай павялічываецца стасоўна да пажыўнога складніка, якога расьліны маюць найменш сабе да дыспазыцыі. Такім чынам, калі ў глебе замала азоту, то іншых складнікоў хоць-бы было і зашмат, усёроўна ўраджай будзе кепскі.

Трэба памятаць, што і іншых пажыўных складнікоў у глебе бывае нястача,—гэта, галоўным чынам, фосфару, паташу й вапна. Добры гаспадар павінен дбаць, каб усіх пажыўных складнікоў у глебе было паддастатак. Але аб гэтых апошніх будзем гутарыць другім разам.

Тым, што лубін сваімі карэньнямі дадае зямлі азот, карысьць яго, як гноя, яшчэ ня вычэрпываецца. Загорваньнем лубіну дадаецца зямлі шмат арганічнага матэр'ялу, які потым пры помачы бактэ-

рыяў раскладаецца і вылучаець шмат вугальнае кісьлі, якая рашчыняецца ў вадзе.

Такая вада, багатая ў вугальную кісьлю, добра рашчыняе мінэральныя складнікі глебы й, такім чынам, творацца пажыўныя рашчыны для расьлін. Апрача таго, прэючы ў глебе, лубін павышае цяплыню глебы й гэтым таксама спрыяе лепшаму росту расьлін.

Часам даецца заўважыць, што жыта па лубіне мае ня поўныя каласы, а „пустыя“. Гаспадары ўважаюць, што яго „спаліла“. Такое тлумачэньне ў многіх выпадках трэба лічыць на мейсцы. Але слабы ўмалот атрымліваецца часта не ад браку вады, а ад таго, што глебе бракуе такіх пажыўных складнікоў, як фосфар, паташ і вапна.

Даўшы глебе значную колькасьць азоту ў форме зялёнага гною, мы зусім забыліся аб іншых пажыўных складніках, з якіх асабліва часта бывае нястача фосфарнае кісьлі.

Расьліна, маючы дастатак азоту, будуе магутнае сваё цела — салому і на гэта забірае з зямлі шмат пажыўных складнікоў так, што, калі пачне збожжа наліваць, забракне часта фосфару ў рашчыненай форме і, такім, чынам, мы атрымаем буйную салому, а калосьсе пустое.

Вось-жа, каб такіх прыпадкаў было менш, трэба прыгнойваць поле яшчэ і мінэральнымі гнаямі. Лепш усяго папрашкаваць супэрфасфатам пасеў жыта, або пшаніцы вясною, калі озім пачне аджываць. Паташовы гной таксама можа быць дадзены разам. Што-ж тычыцца вапна, то найлепш пагнаіць ім поле пад лубін. Лубін, як і рэшта легумінозаў, вельмі любіць вапна, а таму і лубін парасьце і азімае будзе добрае.

М. Г.

---

# Пырнік.

Пырнік ёсьць найдакучлівейшы з пустазельля, якое засьмячае нашыя палі. Колькі наш селянін мае прыкрасьці і як душыць жывёлу, змагаючыся з гэтым пустазельлем. Пырнік, як і наагул кожнае пустазельле, ня толькі адбірае засеянай на полі расьліне пажыўныя сокі, паветра, ваду, сьвятло, але й абніжае тэмпэратуру як паветра, у асярэдзіне якога расьце расьліна, так і глебы. Зьніжэньне тэмпэратуры глебы вядзе к таму, што памяншаецца пераправаньне расьліннай масы ў груньце, стрымліваецца выпаветрываньне мінэральнай часткі глебы, а гэтым самым паніжаецца колькасьць пажыўных сокаў у глебе. Дзякуючы такому шкадліваму дзеяньню пустазельля, ураджайнасьць паніжаецца аж да 50%.

Пырнік ёсьць сьветалюбная расьліна. Глебы любіць лёгкія й вільготныя. На шчыльных глебах расьце кепска і, калі поле не арэцца некалькі гадоў, то пырнік можа выгінуць сам.

Барацьба з пырнікам ня лёгкая. Ачысьціць зерня ад пырніка вельмі лёгка, але найважнейшаю труднасьцю ёсьць ачышчэньне поля ад карнявішчаў пырніку.

Часта бывае, што гаспадары, стараючыся пазбавіцца ад пырніку, наадварот, яшчэ памнажаюць яго. Асабліва гэта здараецца, калі барануюць поле пад час дажджлівае пагоды. К таму бывае яшчэ, што гаспадары, вынішчаючы пырнік, перарабляюць глебу так, што яна становіцца не адпавядаючай для засеву пэўнае расьліны. Асабліва гэтага трэба сьцерагчыся, прыпраўляючы глебу пад азімае.

Каб пазбавіцца карнявішч пырніку, аруць папар, заросшы пырнікам, падчас сухое паходы і плытка ($1^1/_2$—2 вяршкі), потым поле барануюць. Найлепш ужываць у такім прыпадку барон з круглымі зубамі. Такая барана добра выцягвае карнявішча з зямлі, тады як барана з кантовымі зубамі разрывае карнявішчы, якія потым застаюцца ў зямлі. Пасьля такое абробкі, арэцца глыбака, дзеля таго што карнявішчы гінуць, будучы загоранымі на глыбіню $4^1/_2$—5 вяршкоў.

Калі зямля, заросшая пырнікам, мае быць прыпраўленая пад ярыну, то тады робяць у восені такім чынам: зараз-жа, прыбраўшы з поля азімае, іржышча плытка загорваецца, а праз тыдзень, калі ральля крышку зазелянее, барануюць, і потым на зіму яшчэ раз глыбака аруць, каб карнявішчы пырніку трапілі на $4^1/_2$ — 5 вяршкоў у зямлю.

Аднак не заўсёды можна гэтым спосабам зьнішчыць пырнік Другі спосаб нішчэньня заснаваны на тэй уласьцівасьці пырніку, што ён патрабуе шмат сьвятла й нязносіць доўгатрываючага зацяненьня. Таму на вельмі засьмечаных пырнікам палёх засяваюць у працягу 2—3 гадоў шыбкарастучыя кармавыя мешаніны, як віка з аўсом, а на лёгкіх глебах пяшчаную віку, ці пялюшку. З гэтаю-ж мэтай часта сееецца густа грэчка і іншыя добра заценьваючыя расьліны. Такcама канюшына пры двухгадовым яе засеіваньні выціскае пырнік. Аднак найлепшым спосабам будзе засяваньне поля бульбай і карняплодамі.

Дужа часта здараецца, што губіць пырнік спосабам зацяненьня нельга, як, напр., пры сталых севазваротах. Тады нішчыцца пырнік мэханічным шляхом, а ўласьне: поле, паросшае пырнікам, праяжджаюць эксціпатарам (такая трыкутная барана, якое зубы заканчваюцца маленькімі лямешкамі, падобнымі на ступню гуся, ці качкі). Запускаецца эксцірпатар ня глыбака ($1$—$1^1/_2$ вяршкоў), а гэта з тае прычыны, што пырнік пускае сьцёблы галоўным чынам з карнявішч, якія ляжаць бліжэй да паверхні глебы.

Праз дні 3 аж 5 гэтае поле барануецца і, такім чынам, выцягваюцца карнявішчы пырніку. Найлепш ужыць у такім прыпадку барон ня густых, з даўгімі зубамі, нахіленымі крыху ўперад. Калі такую маніпуляцыю прарабіць разоў 3—4, то можна дасягнуць поўнага заняпаду карнявішч пырніку.

Не зважаючы на тое, што пырнік ёсьць небясьпечным пустазельлем, па кармавой сваёй якасьці лічыцца даволі добраю кармавою травою. На сенажацях з глебай сугліністай і супяшчанай дае даволі добрае сена, але, нажаль, на сенажацях гэтая травіна ўтрымацца ня можа, - з асяданьнем глебы зьнікае і пырнік.

Карнявішчы пырніку зужыткоўваюцца розным спосабам. У некаторых мяйсцовасьцях Нямеччыны сяляне з пырніку робяць піва.

Таксама экстракт пырніку ўжываецца ў мэдыцыне.

У вёсках часта робяць пырнікавую настойку на гарэлцы, якую радзяць ужываць пасьля трасцы для ўзмацненьня дзеяльнасьці жалудку. Пырнік можа быць ужыты і як корм для жывёлы, але тады мусіць быць дакладна раздроблены, інакш вывезены на поле з гноем можа лёгка прарасьці.

Далей, пасечаныя на кавалкі карэньні пырніку, ужываюць для замацоўваньня грэбляў, насыпаў і г. д. Найлепш за ўсё ўжыць карнявішчы пырніку, як падсьцёл для авечак, бо ў авечым гноі ён цалком траціць сваю жыцьцяздатнасьць.

---

# Дагляд за азімымі пасевамі.

Звычайна, калі поле ўжо засеяна, сяляне рэдка калі яго даглядаюць, тымчасам, як добры дагляд за пасевам прыносіць гаспадару вялікую карысьць. Інады толькі сваячасныя захады ратуюць ураджай ад канчальнай загібелі. Найбольш усяго вымагаюць дагляду азімыя пасевы. На тым, як пасеў перазімуе, у вялікай меры залежыць і ўраджай збожжа.

Зараз-жа, як сяўба скончана, гаспадар павінен пастарацца, каб на полі падоўгу не магла затрымлівацца вада. Калі-ж вада даўжэйшы час затрымліваецца на пасеву, то азімае ня толькі лёгка можа вымерзнуць, але яшчэ хутчэй можа загінуць ад нястачы паветра ў глебе. Карані тады адуміраюць і пачынаюць гніць. Тое самае можа стацца і з сьцёбламі, калі яны доўга застануцца пад вадою. Каб гэтага ня сталася, трэба зараз-жа па сяўбе папраганяць плужком, або сошкаю вадасьцечныя раўкі і ўтрымліваць іх у чыстаце. Раўкі праганяюць так, каб вада па іх шыбка не зьбягала, іначай яна будзе змываць шмат глею (ілу), які ёсьць вельмі каштоўны ў глебе.

Калі-ж пасьля пасеву пойдуць вялікія дажджы, а потым настане сухое надвор‘е, то можа стацца, асабліва ў глебах глiністых і суглiністых, што на іх паверхні ўтворыцца цьвёрдая скарынка. Гэтая скарынка не дае маладым расьлінкам вылезьці на паверх зямлі. Няма належнага доступу паветра ў глебу і ідзе вялікае выпароўваньне вільгаці з глебы. А дзеля таго трэба гэтую скарынку разьбіць. Калі зьявілася скарынка пад час, як зерняты яшчэ не прарасьлі, або ўжо прарасьлі і добра ўкараніліся, то скарынку можна сьмела зьнішчыць баранаваньнем. Аднак, калі зерняты ўжо пусьцілі расткі, баранаваць нельга, бо маладыя кволыя расткі маглі-б бараною лёгка пашкодзіць. У такім выпадку праяжджаюць поле зубчатымі вальцамі.

Інады бывае, што азімае шыбка расьце і ёсьць небясьпека, што яго можа „пагнаць у трубку“—гэта значыць, што можа ўтварыцца зачатак коласу. Такі озім вельмі баіцца марозу, а таксама ў сьнежную зіму можа лёгка выпрэць.

Каб прыпыніць шыбкі рост азімага, праяжджаюць поле вальцамі, падкошваюць, або спасаюць рунь жывёлаю. Касіць трэба ня вельмі нізка, а толькі каб была сьцята верхняя частка расьлінак. Пры спас-

ваньні трэба ўважаць, каб жывёла пасеў шмат ня вытаптала. Добра спасьвіць азімае авечкамі, але трэба іх усьцяж падганяць каб ня грызьлі нізка пры зямлі.

Бывае часта, што азімае яшчэ з восені парасьце дужа густа. Такі пасеў можа лёгка пад сьнегам сапрэць, асабліва, калі нападае сьнег на непрамерзлую добра зямлю. Каб гэта ня сталася, трэба пабаранаваць пасеў востраю бараною, якая шмат расьлінак павырывае і гэтым пасеў зробіць радчэйшым.

Азімае можа лёгка сапрэць і ад галалёду. А дзеля таго, вытвараўшуюся лядовую скарынку трэба паламаць. З гэтай мэтаю праганяюць па полі кутых коняў, або праяжджаюць па полі цяжкімі зубатымі вальцамі. Асабліва трэба так учыніць, калі к канцу зімы, або з пачаткам вясны нападае сьнег і ўтворыцца ледзяная скарынка над растучым ужо буйным озімам. Раўкі і разоры вясною мусяць быць прачышчаны, каб вада магла добра адцякаць.

Даволі часта бывае, што азімыя пасевы вымярзаюць. Вымярзаньне становіцца насьледкам пераменнага замярзаньня і разьмярзаньня глебы. Здараецца гэта тады, калі мяняюцца за сабою хутка мароз і адліга, або калі днём адліга, а ўначы мароз. Насьледкам гэтага верхнія пласты глебы то расшыраюцца, то ізноў сьціскаюцца. З гэтай прычыны карэньні і рвуцца і выцягваюцца нагору.

Вымярзаньнем бывае часьцей пашкоджана озім, пасеяная позна і не пасьпеўшая добра яшчэ ўкараніцца і асабліва, калі зерня было засеяна глыбака ў зямлю. На мокрых глебах пасевы вымярзаюць часьцей і зразумела чаму, бо чым больш глеба мае ў сабе вады, тым больш пры разьмярзаньні і замярзаньні яна расшыраецца і сьціскаецца. Таксама ў глебах цяжкіх і гумусавых хутчэй можа вымерзнуць азімае. Вымярзаньне, як ужо раней гаварылася, бывае часьцей у маласьнежныя зімы, калі поле добра ня прыкрываецца сьнегам. А таму трэба старацца, каб сьнег на полі мог ляпей затрымлівацца. З гэтай мэтаю часам сеюць азіміну пад плуг і потым ужо не барануюць. Пасеў радавой сеялкай добры тым, што ўсходы знаходзяцца ў боразнах і лепш прыкрываюцца сьнегам.

Калі вясною аб'явіцца, што пасеў у большай, ці меншай меры вымерз, то можна яму хоць часткова дапамагчы баранаваньнем, або прыкатваньнем вальцамі. Зямля прыгорнецца, або прыцісьнецца да карэньняў і частка яшчэ ня зусім згінуўшых расьлінак возьмецца за зямлю. Калі-ж карэньчыкі высахлі, то, разумеецца, ніякім спосабам дапамагчы нельга. З гэтае прычыны, трэба старацца дапамагчы вымерзламу озіму, як найраней з вясны, асабліва прыкатваньне павінна быць праведзена загадзя, як зямля трохі абсохла і конь яе ня месіць нагамі. Чым больш вымерзла азімае, тым раней мусімо яго прыкатваць.

Жыта, звычайна, толькі прыкатваюць вальцамі, а не барануюць. Робіцца гэта таму, што жыта закарэньваецца вельмі плытка і бараною расьлінкі лёгка-б маглі павырываць з зямлі. Ці мае жыта прыкатвацца вясною, калі добра перазімавала, залежыць ад мяйсцовых умоваў. Лепш за ўсё пераканацца на малым кавалку.

Наадварот, пашкоджаную вымярзаньнем пшаніцу, трэба баранаваць. А гэта, папершае, з тае прычыны, што пшаніца глыбей зака-

рэньваецца ў зямлі і лягчэй можа зьнясьці баранаваньне; да таго пшаніца сеецца, у большасьці выпадкаў, на цяжэйшых глебах, а баранаваньнем, зьлёгшаяся на паверхні зямля, ізноў спульхніцца. Патрэцяе, важна яшчэ і тое, каб зьнішчыць пустазельле, якое парасло з пшаніцай.

Пшаніцу можна баранаваць толькі тады, калі глеба ёсьць даволі вільготнай, толькі ў такім выпадку няма небясьпекі, што баранаваньнем павырываюцца расьлінкі. Пры сухой глебе, баранаваньнем можна нарабіць больш шкоды, як ужытку. Загадзя з вясны барануецца пшаніца толькі тады, калі ў большай, ці меншай меры вымерзла, інакш ляпей, калі глеба трохі ацепліцца і пшаніца пачне расьці. Для баранаваньня трэба выбіраць хмурныя дні, або ў крайнім выпадку, у вячэрнюю пору. Найпэўнейшая карысьць ад баранаваньня, калі пасьля яго хутка пройдзе дождж.

Інагды можа здарыцца, што азімы пасеў будзе вясною дужа рэдкі, ці зашмат густы. Калі маем вясною рэдкую пшаніцу, то бяда яшчэ ня так вялікая, бо вясною яна доўга кусьціцца і пасеў потым стане гусьцейшым. Гарэй бывае ў такім прыпадку з жытам, у якога галоўнаю парою кушчэньня ёсьць восень. Лепшаму кушчэньню памагае вясеньняе баранаваньне, але пры гэтым трэба ўважаць, каб глеба была вільготнаю, інакш баранаваньнем павырываецца шмат расьлінак.

Далей можна дапамагчы лепшаму кушчэньню прыгнойваньнем салетрай. Аднак, трэба мець на ўвазе, каб ня было дадзена яе зашмат. Звычайна даецца яе 6—8 пудоў на дзесяціну.

Густы пасеў можна прарэдзіць баранаваньнем. Баранаваць трэба ў часе сонешнай і вятранай пагоды, інакш пасеў можа стаць яшчэ гусьцейшым. Далей можна запабягчы паляганьню густога пасеву прыжынаньнем вяршкоў у расьлін. Прыжынаньне робіцца галоўным чынам у пшаніцы і рэдка калі ў жыта. Прыжынаць можна пасеў толькі з пачаткам зьяўленьня сьцёблаў і не пазьней, каб не пазрэзваць у лісьцях загорненых каласоў. Можна таксама зараз-жа перад закладаньнем, або пачаткам закладаньня сьцёблаў, праехаць пасеў вальцам. Ад гэтага папрыгінаныя да зямлі расьліны ляпей у ніжэйшай сваёй частцы асьвятляюцца сонцам і потым становяцца пэўнейшымі, і ня так хутка могуць палегчы. Усе гэтыя вясеньнія працы, якія гаспадар можа ўжыць для палепшаньня густога або рэдкага пасеву, павінны праводзіцца вельмі ўважліва, а яшчэ лепш, калі гаспадар пастараецца яшчэ з восені, каб яго пасеў ня быў ні густым, ні рэдкім.

Далейшай веснавою працаю гаспадара ёсьць выпалаць памагчымасьці растучае між пасевам пустазельле.

С. Б.

# Як завесьці добры сад.

Каб залажыць добры сад, гэта значыць такі, які-б гаспадару даваў як найбалей ужытку,—рэч ня лёгкая. Аднак і ня будучы дасьведчаным садаводам, пры ўважлівым адношаньні да гэтае справы, і, будучы азнаёмленым з галоўнымі асновамі садаўніцтва, можна ўнікнуць такіх памылак, якія бываюць часта прычынаю неўраджайнасьці і кепскага росту садавых дрэў.

Для таго, каб прыступіць к закладцы саду, трэба перш за ўсё выбраць адпаведнае мейсца, калі такое яшчэ ня вызначана ўжо самым разьмяшчэньнем гаспадарскіх будоў. Зямля пад сад павінна быць добрая. Добрай глебай пад сад будзе тая, на якой добра родзіць пшаніца й ячмень.

Далей, трэба ведаць, што грунтовая вада не павінна быць на глыбіні 1½ арш. для сьліў і яблынь, для грушаў і чарэшань грунтовая вада не павінна быць на глыбіні 2 арш.

Дзеля таго, што вятры шмат шкодзяць нашым садом, трэба старацца, каб мейсца прызначаннае пад сад, было заслонена з боку пануючых вятроў (у нас пераважна заходніх). Калі паверхня плошчы няроўная, то лепшым будзе схіл паўдзённы, або паўдзённа - заходні. Схіл-жа на поўнач і ўсход ня ёсьць адпаведным з тае прычыны, што далікатнейшыя сарты садовых дрэў шмат церпяць ад паўночных і ўсходніх вятроў, а веснавыя прымаразкі часта шкодзяць цьвету.

Далей, важна ўстанавіць, які гатунак дрэў найлепш адпавядае нашай глебе. Пры добрых, глыбокіх глебах закладчык мае вальнейшую руку, але ня мала бывае й такіх прыпадкаў, што глеба адпавядае толькі пэўнаму гатунку садовых дрэў. У такім выпадку можа парадзіць толькі дасьведчаны садавод. Найлепшым пакашчыкам таго, якія дрэвы лепш усяго будуць расьці на новым мейсцы, ёсьць бліжэйшыя сады: што ў іх добра расьце, тое можа ўдацца і на новапрызначаным мейсцы.

Калі прызначанае мейсца пад сад абраблялася кепска, ці зусім не абраблялася, то з'яўляецца патрэбнай аднаразовая абробка ўсяе плошчы, што дасягаецца перакопкаю зямлі на глыбіню аршыну й больш. Аднак, пры нармальных варунках, можна й не перакопываць усяе плошчы, а абмежыцца толькі выкапаньнем ям. Ямы капаюцца круглыя, дыямэтрам ня менш 3 арш. для груш і яблыняў; для вішняў і сьліў можна абмежыцца й вузейшаю ямаю (дыямэтр 2 арш.). Глыбіня ям для груш і яблыняў мае быць 1¼ арш., для вішняў і сьліў— 1 аршын.

Аддаленьне аднэй ямы ад другое залежыць ад таго, як густа мае быць сад засаджаны. Нармальны сад мусіць мець аддаленьне аднаго дрэва ад другога 11—14 аршын.

У выпадку, калі пры капаньні ям натрапіцца для вады непрапускны слой, то лепш далей не капаць, бо ў гэтае мейсца будзе зьбірацца вада, дзякуючы якой могуць загніваць карані. Ямы трэба капаць ня перад самай пасадкай, а загадзя. На лёгкіх глебах ямы капаюцца найменш за два тыдні перад пасадкай, а пры цяжкіх гле-

бах—і за некалькі месяцаў. Капаючы ямы, трэба верхні, ураднейшы пласт глебы класьці ў адну кучу, а ніжні менш ураджайны—у другую. Кепская зямля мусіць быць палепшана, або заменена сьвежаю зямлёю. На дол ямы даецца зямля, скапаная тут-жа з паверхні, або прывозіцца з іншага мейсца. Добра даць на дол 2½ фун. тамасаўкі, зьмешанае з зямлёю, а ў вільготных глебах 1 фунт парашкаванага вапна, якое таксама трэба добра перамяшаць з зямлёю. Кепскую зямлю паляпшаюць добра перагніўшым кампостам. Трэба асьцерагацца прыгнойваньня зямлі, прызначанай для засыпкі ям, сьвежым гноем, бо такі гной, папаўшы глыбака ў зямлю, кепска прэе і ня прыносіць карысьці, а хутчэй шкоду. Лёгкія глебы палепшываюцца прыданьнем гліны й кампосту; для цяжкіх глебаў, наадварот, добра прыдаваць пясок і кампост Ямы трэба засыпаць цалком, а наверсе добра дасыпаць копчык, каб зямля ляпей зьлеглася.

Зямля павінна абавязкова да пасадкі добра зьлегчыся. Калі-ж гэтага варунку ня будзем выпаўняць, то пасаджаныя дрэвы, у выніку асяданьня грунту, могуць глыбака запасьці ў зямлю, а потым будуць кепска расьці й хварэць.

Пасадка дрэў робіцца восеньню й вясною. Пара пасадкі пачынаецца ад таго часу, калі лісьці пачнуць ападаць з дрэў, і цягнецца, за выключэньнем зімы, аж да зьяўленьня новых лісьцяў. У мяйсцох, дзе глебы цяжкія, або мокрыя, уважаецца лепшай пасадка веснавая.

Перад самаю пасадкаю трэба прыгатаваць ізноў тыя-ж ямы, але такое вялічыні, каб у іх маглі зьмясьціцца толькі карэньні. Потым правідлова разстаўляюцца калы, да якіх прывязываюцца пасаджаныя шчэпы. Калы мусяць быць такое даўжыні, каб верхні канец не даходзіў да каронкі. Прызначаць для пасадкі ляпей дзераўца заднагадовай каронай. Прытым пень шчэпы павінен быць просты і гладкі. Карэньне мусіць быць здаровае, бяз нарасьцяў, належна разгалужана й непаломана.

Прыпадкова пашкоджаныя карані зразаюцца гострым нажом да жывога мейсца, якое пазнаецца тым, што ткань яго ёсьць белая, або раўнамерна сьветлая. Дужа даўгія карані ляпей абрэзаць, каб у яме іх ня скручываць. Трэба таксама ведаць, што рэзы павінны быць зьвернуты ўніз і ніколі на гору.

Што-ж тычыцца падрэзкі галін у кароне, то абразаюцца толькі тыя галіны, якія так ці інакш пашкоджаны. Фармаваньне-ж кароны дапушчаецца толькі на другі год. Аднак, калі шчэпы садзяцца позна або ў сухім становішчы, ці маюць шмат пашкоджаных карэньняў а мала валакністых і, наагул, калі ёсьць небясьпека, што пасаджаныя дзераўцы ня будуць адразу добра расьці, тады трэба галінкі іх прыцяць на ⅓ даўжыні. Пры гэтым трэба старацца надаць кароне форму стажка.

Добра агледзеўшы шчэпы, прыступаюць к пасадцы іх, пры чым трэба трымацца засады, што шыйка караня (мейсца, дзе канчаецца пень і пачынаецца карэнь) ні ўякім разе не павінна быць у зямлі. Калі-ж гэтая засада ня будзе датрымана й шчэп будзе глыбака пасаджаны, то можа ўзьнікнуць, у выніку гэтага, шмат вадаў,—як кепскі рост, ракаваценьне, слабы адпор на марозы й, нарэшце, дзераўца можа цалком загінуць. Каб такое памылкі ўнікнуць, трэба ўпапе-

рак ямы палажыць дошку ў роўні з зямлёй, і пры пасадцы шчэпу; трымаць яе так, каб шыйка кораня была вышэй дошкі на 5—10 снт., у залежнасьці ад таго, на колькі зямля ёсьць зьлёгшыся.

Пры большым ліку шчэпаў, каб карэньні ня высыхалі, зьмяшчаюць іх у разьмешаную з вадою кампостную зямлю. Часам пасаджанае дзераўца з тае, ці іншае прычыны не расьце добра; у такім прыпадку трэба зараз-жа яго з зямлі выняць, падрэзаць карэньні й палажыць на суткі ў ваду, а пасьля ізноў засадзіць. Пры тым трэба дзераўца штодня крапіць вадою, пакуль ня прыймецца. Такая апэрацыя можа быць зроблена яшчэ ў канцы мая і аж у пачатку ліпня.

Калі-ж дрэўцы ўжо засаджаны, то далейшы дагляд за імі палягае на тым, каб зямля наўкол каранёў была вільготнаю. З гэтаю мэтаю дрэўцы добра паліваюцца й зямля наўкол пянька прыкрываецца лісьцем. К таму трэба дадаць, што зямля наўкола пянька мусіць быць усьцяж пульхнай і час ад часу прыгнойвана кампостам.

Праз 2—3 тыдні, пасаджаныя шчэпы натуга прывязываюцца да канца. Зараз-жа пасьля пасадкі дзераўца таксама прывязываецца, але ня туга, каб яно магло апусьціцца разам з асядаючаю зямлёю. У першыя два гады па пасадцы, дзераўцы павінны ў часе сухое пагоды добра палівацца.

Што датычыцца фармаваньня кароны, барацьбы са шкоднікамі і, наагул, далейшага дагляду саду, будуць гутаркі ў наступных нумарох.

**З. К.**

---

# Кароткія увагі аб бульбе.

Заданьнем гаспадара пры выбіраньні бульбы ёсьць выбраць і захаваць на зіму бульбу так, каб потым было як найменш страт. Здаровая і добра перахоўваная бульба не павінна да вясны страціць на сваёй вазе больш 1/10 першапачаткавае вагі. Калі-ж перахоўваецца бульба ня зусім здаровая, то страты ў колькі разоў павялічваюцца.

Бульбе шкодзяць розныя хваробы, — як бульбяная гніль, бульбяны грыбок і інш., асабліва ў дажджлівыя часы. Заўважым між іншым, што добрым сродкам барацьбы з бульбяною гнільлю і бульбяным грыбком ёсьць крапленьне бульбяніку ў часе яго росту „бордзкай жыжкай“ (2 кілёгр. меднага купаросу і 2 кілёгр. паленага вапна на 100 літр. вады).

Для барацьбы з хваробамі рэкамэндуецца яшчэ перад ссыпкай бульбы абкурыць серкай тое мейсца, куды мае ссыпацца бульба і потым выветрыць яго. Далей, пры выбіраньні бульбы, трэба складаць здаровыя бульбіны асобна ад хворых і гэтыя апошнія спаліць, або, у крайнім выпадку, зараз-жа зужыткаваць яе, як корм. Пашкоджаная плугам бульба мусіць быць таксама атабрана і зложана асобна. Перад ссыпкай бульба павінна быць добра асушана.

Для насеньня трэба выбіраць толькі здаровую бульбу з тоўстаю скуркай, ня рэзаць яе і перад сяўбою перасушыць на сонцы; ня се-

яць бульбы на мокрых непрапушчальных грунтох і старацца ня сеяць часта бульбы на тым самым мейсцы і ўнікаць ужываньня пад бульбу сьвежага гною. Да таго трэба рабіць яшчэ высокае асыпаньне бульбы.

Аднак, было-б добра, каб нашыя сяляне наагул перайшлі да куставога выбару насеньня бульбы. Гэты мэтад мае тое значэньне, што пры ім на насеньне выбіраюцца ня толькі здаровыя бульбіны, але ідзе падбор больш прадуктыўнага насеннага матэр'ялу. Такім чынам ідзе палепшаньне сорту і ўраджай, зразумела, павялічваецца. Ёсьць фактычна два спосабы куставога выбару, — гэта нэгатыўны і пазытыўны. Пры нэгатыўным спосабе, яшчэ ў часе росту бульбы, абазначаюцца кійкамі кусты хворыя, слаба разьвітыя і прымешаныя сарты, якіх хочам пазбавіцца. Пры выбіраньні бульбы, бульбіны з-пад азначаных кустоў складаюцца асобна, а на насеньне перахоўваецца бульба толькі з-пад кустоў неазначаных.

Пры пазытыўным выбары, наадварот, абазначаюцца кійкамі толькі найлепшыя здаровыя кусты, ад якіх можна чакаць большай прадукцыйнасьці, але гэта лепшая прадукцыйнасьць не павінна быць вынікам лепшага становішча куста. Пры нэгатыўным выбары можна атрымаць патрэбнае нам насеньне з меншай плошчы, чым пры пазытыўным. Аднак, хаця пазытыўны спосаб вымагае больш працы, але пры ім хутчэй можна дапяць сваёй мэты. Да таго, пры выбары пазытыўным, можна яшчэ, выбіраючы бульбу, кантраляваць прадукцыйнасьць азначаных кустоў. Калі пад азначаным кустом колькасьць, ці вялічыня бульбы акажацца замалою, то з пад такіх кустоў няварта яе далучаць да пасеўнага матэр'ялу.

На заканчэньне скажам, што, пры пільным і ўважлівым куставым выбары, павялічаная праца добра аплоціцца лепшым ураджаем.

**С. А.**

---

# Як зужыткаваць праросшае ў снапох жыта.

Сярод многіх стыхійных зьявішчаў, на ласку і няласку якіх выстаўлена гаспадарка нашага селяніна, трэба далучыць і пэрыяд летніх дажджоў, якія льлюць у нас часта ў пару ўборкі з поля збожжа. Зерняты ад вільгаці разбухаюць і даюць расткі, а салома чарнееець і траціць кармавую вартасьць.

У прарастаючым зерні актывуюцца энзымы, дзякуючы дзейнасьці якіх рэзэрвовыя часткі зерня пераходзіць у іншыя формы і перш за ўсё у формы ў вадзе рашчынныя, якія лёгка выпаласківаюцца дажджавою вадою. Пры гэтым, значная частка рэзэрвовых матэр'ялаў ідзе на аджыўленьне растка. Прарасшае зерня перастае быць трывалым і лёгка плясьнее й загнівае, а таму, каб зьберагчы застаўшыеся яшчэ пажыўныя часткі зерня, трэба прыняць як аснову, што прарасшае збожжа павінна: 1) як найменш аставацца ў коласе; 2) зерня мусіць хутка й дакладна быць высушана і 3) як найхутчэй такое збожжа мусіць быць зужыткована.

Сушыцца праросшае жыта на сонцы, або ў добра праветрываных будынках, разсыпанае тонкім (ня больш 4—5 вяршкоў) пластом на падлозе і даволі часта мае быць перамешывана. Калі й пасьля такое сушкі зерня ўсё-ж такі плясьнее, то нічога не астаецца зрабіць, як зараз-жа высушыць яго ў сушыльні, або ў печы і пры такой тэмпэратуры, каб зерня ня толькі высахла, але нават і падпражылася. Падпражанае праросшае зерня набывае бальшай спажыўнасьці й смаку й вельмі добра можа быць скарыстана, як корм для жывёлы.

Добра яшчэ такое падпражанае збожжа згруба змалоць і ўжыць, як вобмешку. Аднак кармавая даўка ня мусіць быць вельмі вялікай. Асабліва трэба быць асьцярожным пры даваньні такога корму коням, які не павінен перавышаць 2 фунтаў. Рагатай-жа жывёле можна даваць і да 3 фунтаў на штуку ў суткі. Добры ўплыў мае на спажываньне, калі такі корм яшчэ належна саліць.

У прыпадку, калі праросшае жыта ўжо трохі падгніло, то з'яўляецца небясьпека ўжываць яго і падпражаным. У такім выпадку падпражанае і размолатае зерня яшчэ варыцца, як на пойла, соліцца і гэтым пойлам паліваецца сечка, мякіна і г. д. Асабліва добра такое пойла зужыткаваць кормнымі сьвіньнямі.

Часта бывае, што праросшае жыта гаспадар мусіць ужыць і для сябе на хлеб. У такім выпадку зерняты добра сушацца на сонцы і пасьля, калі зьмелецца, прасушываецца яшчэ раз мука. Хлеб з такое мукі бывае, звычайна, нясмачны, няпрыемна пахне, хутка чарсьцьвее й псуецца. Такі хлеб і для здароў'я ёсьць шкодны. А таму рэкамэндуецца цеста з такое мукі добра саліць. Міма таго, рэкамэндуецца яшчэ дадаваць да цеста вапеннае вады. На пуд мукі прыдаецца $10^1/_2$—11 фунтаў вапеннае вады. Аднак, выпечаны хлеб з такога цеста ёсьць прэсны, а таму мусіць яшчэ быць належна пасолены.

**Х.**

# Скарыстаньне торфу на угнаеньне.

Нізкія цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты не дазваляюць нашаму гаспадару ў належнай меры карыстацца штучнымі гнаямі. Да таго трэба дадаць, што штучныя гнаі не заўсёды даюць добры вынік на нашых моцна ападзоленых суглінкавых і супяшчаных глебах. Для гэтага патрэбна яшчэ належная дадача ў глебу арганічнае матэрыі. Арганічныя матэрыі, як хлеўны гной, лубін, торф, іржышча і г. д., унесеныя ў глебу, ня толькі даюць, пасьля таго як сапрэюць, усе пажыўныя складнікі для расьліны, але і ўплываюць на фізычныя ўласьцівасьці глебы,—цяжкія гляістыя грунты становяцца больш пульхнымі, а вельмі пульхныя пяшчаныя глебы — больш зьвязнымі.

Для таго, каб торф можна было зужыць на ўгнаеньне, трэба яго яшчэ належна прыправіць. Сьвежа выкапаны торф ня толькі ня прынясе карысьці, але яшчэ можа пашкодзіць. У сьвежым торфе знаходзіцца шмат квасаў і іншых шкадлівых спалучэньняў, якія шкодзяць расьліне. Таму можна гнаіць поле толькі такім торфам, які праляжыць на паветры ня менш году. Дзеля гэтага яго капаюць і складаюць у кучы, аршыны два вышыні й шырыні

Часам дамешваецца да торфу вапна.

Аднак, ня кожны торф ёсьць аднолькава добрым для ўгнаеньня. Лепшым лічыцца не балотны торф, а з берагу рэк, дзе ён заліваецца паводкай і мае ў сабе шмат глею. Верхні пласт торфу добра ўжыць на падсьціл для жывёлы.

Скарыстаньне торфу на падсьціл зьяўляецца добрым таму, што торф адзначаецца вялікай здольнасьцю ўпітваць вільгаць. Такім чынам, значна большая колькасьць каштоўнай хлеўнай жыжкі затрымліваецца ў гнаі і к таму яшчэ зьнікае ў хляве няпрыемны пах. Торф для падсьцілу павінен быць добра высушаны. На адзін пуд жывое вагі жывёлы рэкамэндуецца даваць торфу ў падсьціл каля $1^1/_2$ пудоў на год. Пасыпаюць яго на гнаі пластом $1-1^1/_2$ вяршкі таўшчынёю.

Добрым угнаеньнем ёсьць таксама тарфяны кампост, які прыпраўляецца наступным спосабам: кладзецца пласт торфу таўшчынёю 3—4 вяршкі, на торф кладзецца пласт гною такое-ж таўшчыні, а потым ізноў торф. Так укладаецца торф у перамежку з гноем да тае пары, пакуль куча не дасягне $1^1/_2$—2 аршыны вышыні. Верхнім пластом кучы павінен быць торф. Шырыня куч можа мець 3—4 арш., а даўжыня—6 — 7 аршын. Праз месяцаў 6 трэба кучу добра пераняшаць. Пры гэтым трэба старацца, каб пласты ніжнія прышлі нагору, а верхнія—уніз і каб гной з торфам між сабою добра перамяшаліся. Перамешаная куча тарфянога кампосту павінна яшчэ ляжаць ня менш, як 6 месяцаў, а потым можа быць зужыта на ўгнаеньне.

Шмат досьледаў, зробленых з торфам, паказалі, што торф, зьмешаны з гноем, дае лепшы ўчынак на ўраджай, чым сам гной.

Для гэтага прывядзем дадзеныя Запольскай с.-гасп. дасьледчай станцыі:

Ураджай аўсу на дзесяціну:

| | Колькасьць гною ў пудах | УРАДЖАЙ У ПУДАХ | | |
|---|---|---|---|---|
| | | I год па ўгн. | II год без угн. | III год без угн. |
| Гной саломісты . . . . | 2400 | 145 | 151 | 115 |
| Гной тарфяны . . . . . | 2400 | 160 | 171 | 179 |
| Торф . . . . . . . . | 4800 | 163 | 160 | 163 |

З гэтай табліцы яскрава бачым, які добры ўчынак на ўраджай робіць торф і асабліва тарфяны гной. Да таго трэба яшчэ прыняць пад увагу, што поле, пагноенае торфам, ці тарфяным гноем даўжэй захоўвае ўплыў угнаеньня.

Падобныя выследкі адносна ўчынку торфу, як угнаеньня, атрыманы і іншымі дасьледчымі станцыямі. С. А.

# Перапрацоўка касьцей на угнаеньне.

Косьці жывёлы вызначаюцца вялікім процантам (каля 20) фосфарнага квасу, які ёсьць неабходным пажыўным складнікам для расьліны. Аднак, у звычайным выглядзе іх нельга зужыць як гной. Для таго, каб з касьцей стаў фосфарны гной, патрэбна з іх выланіць

тук і як найдрабней змалоць. Такі гной знаходзіцца ў продажы пад назовам касьцяное мукі. Нашы глебы бедныя на фосфар. Часты неўмалот збожжа, у большасьці выпадкаў, тлумачыцца нястачай фосфару ў глебе.

Найбольш фосфару ад глебы вымагае збожжа і забірае яго пры кожным ураджаі каля 2 пудоў з дзесяціны. Хлеўным гноем фосфар, уласне, дадаецца глебе, але ў дужа малой колькасьці. Каб быў добры ўраджай, патрэбны побач з хлеўным гноем і штучны фосфарны гной. Такімі гнаямі ёсьць супэрфасфат, тамасавая мука, касьцяная мука і фасфытная мука.

Усе гэтыя гнаі прыходзіцца гаспадару купляць, а некаторыя з іх ёсьць даволі дарагія. А таму было-б карысна зужыткаваць на фосфорны гной усе косьці, якія знаходзяцца ў гаспадарцы, як адкід і старацца сходна набыць іх на старане.

Ператварыць косьці на ўгнаеньне ня ёсьць так трудна. Для гэтага косьці збольшага таўкуць і накладаюць імі непрапускную бочку, адначасна перасыпаючы іх гашаным вапнам. На кожныя 12 пудоў касьцей даецца 2 пуды гашанага вапна. Потым на гэту мешаніну naліваецца рошчын поташу (1 пуд поташу, рашчынены ў 20 ведрах вады). Замест поташу можна паўжыць звычайнага попелу. Попелу з бярозавых дроў даецца столькі па вазе, скольки важаць косьці. Далей уся мешаніна яшчэ час ад часу паліваецца вадою. Праз тыдняў 2—3 трэба ў бочцы перамяшаць так, каб косьці, знаходдзячыеся зьверху прышлі ўніз. Яшчэ праз 2—3 тыдні ўся меншаніна ператворыцца ў мягкую, тварагавітую масу, якая і паўжываецца для ўгнаеньня.

Можна таксама косьці перапаліваць у печы і тады, як касьцяны попел, паўжываць на ўгнаеньне. Аднак такая перапрацоўка касьцей ня ёсьць дужа добрай, бо фосфарны квас, знаходзячыся ў касьцяным попеле, ёсьць многа менш рашчынны, чым у неперапаленай косьці.

Далей косьці перарабляюцца на гной і такім спосабам: таўкуцца косьці на невялікія кускі (1/2—1 вяршок) і потым выварваюцца ў вадзе. Далей бярэцца кадушка і на дно яе насыпаецца пласт попелу ў 3 вяршкі таўшчынёю, наверх насыпаецца такое таўшчыні пласт вывараных касьцей, потым ізноў пласт попелу і пласт касьцей і г. д. Самым верхнім пластом у кадушцы мае быць попел.

У такім стане кадушка пакідаецца праз зіму, а на вясну ўсё із бочкі высыпаецца і косьці таўкуцца на дробны парашок.

Калі ёсьць касьцей шмат, то робяць такім чынам: выконваецца патрэбнай велічыні яма і складаюцца туды пластамі ў перамежку раздробленыя косьці, попел і іншыя адпадкі. Потым яма закідваецца зямлею, у якой калом прабіваецца некалькі дзірак, праз якія даліваецца трохі хлеўнай жышкі. Праз які тыдзень яму адкідаюць, усё у ей перамешваюць, падліваюць хлеўнай жыжкі і ізноў прыкрываюць. Падобная праца праз 2—3 месяцы прарабляецца яшчэ раз і толькі яшчэ праз 2—3 месяцы, калі косьці цалком распадуцца, касьцяное ўгнаеньне ёсьць цалком гатова. Вадаю гэтага апошняга спосабу ёсьць тое, што значная частка гною прасочыцца ў зямлю. **Т. С.**

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй сябры Белар.
Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“
Людвікі Войцікавай.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Дзякуючы ветлівасьці рэдактара „Сахі“ і яе галоўнага кіраўніка, маем магчымасьць на гэтым мейсцы распачаць пэрыядычнае зьмяшчаньне „Пчалярскага Аддзелу“, які ад часьці заменіць нам неабходную для ўсіх пчаляроў сваю ўласную пчалярскую часапісь.

„Пчалярскі Аддзел“ пры „Сасе“ будзе зьмяшчаць усялякія стацьці па пчалярству, карэспандэнцыі пчаляроў і адказы на розныя, зьвязаныя з пчалярствам пытаньні.

Лісты ў справах пчалярскіх просім адрасаваць ў Т-ва „Пчала“ або ў „Саху“ з азначэньнем у „Пчалярскі Аддзел“.

---

## Як пераховываць мёд.

Вытрасяны з плястраў мёд найлепш зьліваць у драўляныя бочкі—ліпаўкі. У гэтакай пасудзіне мёд найхутчэй сьпее, г. зн. лішняя часьць вады з яго выпарываецца і ён пачынае мутнець і крысталізавацца. Да гэтага часу мёд павінен стаяць адкрыты, забясьпечаны толькі ад мух і пылу чыстай радзюжкай.

Памутнеўшы і згусьцеўшы мёд можна ўжо зьліваць у іншую пасудзіну: мэталёвую, гліняную-паліваную і шкляную.

Мёд сьвежы проста з пушніцы зьліты, напрыклад, у шкляныя слоі крысталізуецца вельмі памалу; можа прастаяць рэдкім паўгоду і больш.

Крысталізацыя мёду залежыць таксама ад тэмпэратуры, у якой ён стаіць. У лішне цёплым мейсцы (20—25° Р.) мёд вельмі доўга ня сьпее, у лішне халодным (S—10°) таксама, а самая лепшая тэмпэратура для крысталізацыі, гэта 16-19° Р-а. Ці мёд хутка сьпее, ці памалу залежыць таксама ад таго, з якіх расьлін ён сабраны. Найхутчэй сьпее мёд з сонечніка, гарчыцы, сьвіропы і падобных. Ён сьпее так хутка, што часам у працягу пару тыдняў скрысталізуецца ў плястрах, так што нават трудна вытрасьці яго ў пушніцы. Такі мёд зусім не прыгодны для пчол на зіму, скрысталізаваныя яны ня могуць карыстацца і паміраюць з голаду паміма вялікіх запасаў гэтакага мёду.

Мёд з ліпы, дзяцеліны, грэчкі, дацэліі і розных другіх расьлін сьпее ў працягу 1—3 месяцаў. Мёд з белай акацыі высьпявае цэлыя поўгоду.

Калі хто хоча, каб мёд скрысталізаваўся хутка, трэба да сьвежага, толькі што вытрасенага мёду ўкінуць некалькі лыжак мёду старога, леташняга; тады сьвежы мёд скрысталізуецца вельмі хутка.

Бывае аднак і наадварот, што пчаляр хацеў-бы мець як найдаўжэй мёд „сьвежы“, нескрысталізаваны. Каб утрымаць яго ў сьвежым рэдкім стане, робяць гэтак: пакуль мёд яшчэ зусім сьвежы зьліваюць яго ў шкляныя гэрмэтычна зачыненыя слоікі, ставяць іх у кацёл з вадой, (пераклаўшы сенам, а таксама падлажыўшы сена на дно катла), ставяць кацёл на агонь і ваду ў катле даводзяць да кіпеньня. Ад часу, як вада пачне кіпець, слоікі павінны стаяць у вары 15 мінут. Пасьля гэтага часу кацёл у агню зьнімаюць і астыўшыя слоікі ставяць у халодным мейсцы. Гэтак перагатаваны мёд крысталізавацца ня будзе, астанецца рэдкім, ня страціўшы прытым ні паху, ні коляру.

---

# Зборка гнёздаў на зіму.

У калодах гнёзды на зіму наладжываюць пчолы самі. Хіба, калі мёдазбор быў дрэнны і запас мёду на працяг зімы можа быць за малы, тады пчаляр пчолы падкормлівае.

І ў рамовых, разьбіраных вульлях фармаваньне гнязда было-б лішнім, каб пчаляр, забіраючы мёд, не псаваў парадку заведзенага пчоламі,

Дзеля добрай зімоўкі трэба вельмі мала: трэба, каб ў вульлі, асабліва пасярэдзіне гнязда, дзе зьбіраюцца клубом пчолы, быў належны запас мёду і трэба, каб гэты мёд быў зложаны па пляну саміх пчолаў

У вульлях Дадана-Блята пасьля таго, як пчаляр адабраў магазын з мёдам у гнязьде, мёду найбольш аказываецца на крайніх рамках, а пасярэдзіне яго так мала, што пчолы на іх не змаглі-б перазімаваць. У вульлях Лявіцкага ў сярэдніх рамках мёду бывае больш, так што і фармаваньне гнязда не зьяўляецца неабходнасьцю. — Наагул, калі ў 5—9 сярэдніх рамках гнязда акажацца 8—12 кілягр. мёду, то тады і рухаць яго няма патрэбы; трэба толькі забраць лішнія бакавыя рамкі.

Адбіраць лішнія рамкі трэба выключна крайнія, бо ў сярэдніх пчолы яшчэ летам злажылі і залілі мёдам запасы пяргі, якая для іх неабходная дзеля зімовага харчаваньня. Пяргу на зіму пчолы кладуць паводле пэўнага пляну, так што наагул сярэдніх рамак гнязда рухаць і перастаўляць нельга. У тым выпадку, калі на сярэдніх рамках мала мёду, а на крайніх яго шмат, тады трэба 1—2 крайнія рамкі распячатаць; мёд з іх пчолы ў працягу пару дзён перанясуць на сярэднія рамкі і зложаць яго бяз ніякай памылкі. Калі 1—2 рамак мала, можна распячатаць 3 або і 4.

Калі ў гнязьдзе наагул мёду мала тады трэба падкармліваць або добрым мёдам, або густым цукровым сыропам (3—4 часьці цукру на 1 часьць вады).

---

# Дробныя парады.

### Як сушыць грыбы.

Дзеля сушкі выбіраюцца маладыя й здаровыя грыбы. Перад тым, як сушыць іх, трэба ачысьціць, і перамыць у халоднай вадзе, адрэзаць карані і, калі грыбы вялікія, парэзаць іх на часткі. Потым грыбы нанізваюцца на нітку і апушчаюцца на мінюты дзьве ў падсолены кіпень. Сушацца грыбы на вольным паветры ў цяні або ў печы, але ня ў вельмі гарачай, бо залішняя гарачыня псуе колер, смак і пах грыба. Высушаныя грыбы трэба перахоўваць у сухім мейсцы.

### Загатаўленьне гуркоў на даўжэйшы час.

Добрым спосабам загатаўленьня гуркоў ёсьць заліваньне іх спэцыяльна прыгатоўленым для гэтага адварам. Адвар прыпраўляецца такім чынам: на 1 вядро вады даецца 2 фунты солі, 1/4 фунт. чабару (травы), жменя сьцёблаў укропу і 1/4 — 1/2 жмені часныку (зялёнага). Усё гэта варыцца ў шчыльна прыкрытым катле ці гаршку і потым працэджваецца. Гэтым адварам, па яго ахалоджаньні, заліваюцца гуркі, наложаныя ў адпаведную пасудзіну. Залітыя гуркі яшчэ зьверху прыкрываюцца пластам лісьцяў з вішні, дуба ці смародзіны.

### Як трэба квасіць капусту.

Кожная гаспадыня квасіць капусту па свойму. Але найлепшы спосаб квашаньня капусты гэткі: дно бочкі высьцілаюць верхнімі лістамі капусты, на іх кладуць чорнага кісла-салодкага, добра выпечанага, прытым смачнага хлеба невялічкімі лустамі каля 2 фунтаў. Гэта закваска, фэрмэнт і галоўная аснова смаку й паху капусты. Шаткаваць капусту трэба дробненька, бо тады яна лягчэй і ляпей убіваецца і надалей захоўваецца, ня трацячы смаку. Убіваць капусту трэба добра, пасьля кожнае двухвёдзернае засыпкі. Добра ўбітая капуста ніколі не плясьнее. Зьверху капусту прыкрываюць шэрымі, цэлымі капуснымі лістамі, на якія кладзецца ліповы кружок з грузам у 25—30 фунтаў. Пры шаткаваньні, у капусту дадаюць столькі солі па смаку і дробна пакрышнане цыбулі (5—6 сярэдніх галовак на 1 вядро капусты) а больш нічога. Іншых пахучых траваў і прысмакаў можна дадаваць пры ўжываньні капусты да яды. Ні ў якім выпадку ня можна капусту заліваць вадою, бо на трэці-пяты дзень капуста сама дасьць так многа соку, што ім пакрыецца ўся капуста. Сок ад першага бражэньня капусты трошкі чарнаваты, для гэтага трэба старацца, каб ён увесь выйшаў. Для гэтае мэты трэба ўзяць гладка выструганую палку ў палец таўшчынёю і ёю па сярэдзіне бочкі прабіць у капусьце дзірку аж да самага дна, па якой сок і будзе падымацца на верх.

Прыгатаваная такім спосабам капуста будзе мець прыемны кіславата-салодкі смак і вінны пах.

# ХРОНІКА.

**Перагляд жывёлы ў Кушалёве.**

10-га жніўня г. г. у Кушалеве, каля Наваградка, адбыўся перагляд дойнае жывёлы. Да перагляду было дастаўлена 138 кароў з бліжэйшых вёсак. Пасьля кваліфікацыі атрымалі грашовыя награды 38 гаспадароў у суме 330 злотых. На пераглядзе фігуравалі галоўным чынам адмены мяйсцовай дойнай жывёлы.

**Зьезд Цэнтральнага Саюзу Белар. Культурна-Прасьветных і Гаспадарчых арганізацыяў і інстытуцыяў.**

На 27 вдрасьня вызначаны зьезд Цэнтральнага Саюзу вышэйуспомненых арганізацыяў і інстытуцыяў. Цэнтральны Саюз ужо цяпер вядзе працу ў кірунку аб'еднаньня ўсіх беларускіх устаноў. Для гаспадарчых нашых арганізацыяў, якія дагэтуль упорна змагаліся за сваё істнаваньне, Цэнтральны Саюз, бязумоўна, створыць новыя, шырэйшыя магчымасьці працы й разьвіцьця. А дзеля гэтага, кожная беларуская гаспадарчая арганізацыя павінна выслаць на зьезд сваіх прадстаўнікоў. У справах Цэнтрасаюзу зьвяртацца па адрэсу: Вільня, Вострабрамская, 9, кв. 22.

**Беларуская медасытня ў Вільні.**

Беларускае коопэрат. пчалярскае т-ва „Пчала“ пачало эрэргічную працу над утварэньнем у Вільні беларускай медасытні. У медасытні будуць прадавацца ўсялякія пераробкі мёду, а таксама й мёд. Апрача таго, пры медасытні будзе істнаваць страўня (сталоўка). Шмат працы ў гэтым кірунку пакладае гр. Л. Войцікава. Справа белар. медасытні, бязспрэчна, залежыць у першую чаргу ад нашага грамадзянства. Дзеля гэгага, каб праэкт медасытні запраўды быў зрэалізаваны, патрэбна помач і супрацоўніцтва ня толькі сяброў „Пчалы“, але й іншых беларускіх арганізацыяў. Праэкт такіх страўняў (сталовак) і медасыцен, якімі-б кіравалі коопэратыўныя арганізацыі, трэба было-б пашырыць і на іншыя месты. Гэта палягчала-б і працу самога т-ва „Пчалы“, даючы магчымасьць пчалярам прадаваць мёд у бліжэйшых местах і мястэчках.

**Паўночны кірмаш.**

14-га верасьня г. г. распачаўся ў Вільні другі Паўночны Кірмаш, які працягнецца аж да 28 верасьня. Задачай гэтых кірмашаў у Вільні ёсьць ня толькі падняць больш напружаную вымену выробляных і патрабляемых тавараў у гэтым Краі, але вярнуць Вільні ў большай ці меншай меры тое гандлёвае значэньне, якое яна мела перад вайною. Перад вайною-ж Вільня была досыць значным гандлёвым пасрэднікам між-сярядняй Эўропы і Усходам. У кірмашы прымаюць удзел ня толькі прамысловыя й гандлёвыя фірмы нашага Краю й Польшчы, але таксама прыватныя фірмы Швэйцарыі, Аўстрыі, Фінляндыі і інш. З дзяржаў прымае ўдзел у сёлеташнім Паўночным Кірмашы Эстонія. Латвія-ж, не гледзячы на абецаньне, прымаць удзелу ў кірмашы ня будзе.

На кірмашы ёсьць шмат аддзелаў. Між гэтымі аддзеламі ёсьць таксама аддзел сельскагаспадарчай прамысловасьці. Падрабязную справаздачу аб Паўночным Кірмашы падамо ў наступным нумары нашае часопісі.

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

# У Беларускай Кнігарні

**ВЫДАВЕЦКАГА Т-ВА — — (ВОСТРАБРАМСКАЯ, 1)**

кожны гаспадар можа купіць па таннай цане наступныя кніжкі сельска-гаспадарчага зьместу:

| | зл. | гр. |
|---|---|---|
| **Аляксееў Е.** „Сэрадэля, трава на корм, угнаеньне і насеньне“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | — | 90 |
| **Аўчыньнікаў І.** „Галоўныя паразыты свойскае жывёлы | — | 75 |
| **Бараноўскі А.** „Змаганьне з пажарамі“ . . . . . . . | 1 | — |
| **Бахцееў Х. Я.** „Як палепшыць сенажаць і выганы“ . | 1 | — |
| **Бэсікірскі К.** „Як вырасьліваць тутун“ . . . . . . . . | — | 75 |
| **Бэліцэр А.** „Як папераджаць і лячыць каросту ў коняй“ | — | 50 |
| **Бугаёў З.** „Буракі, бручка і рэпа ў полі“ . . . . . . | — | 30 |
| **Вінаградаў А.** „Як атрымаць добры ўраджай лёну“ . | — | 50 |
| **Выкачка і Крывіцкі.** „Як палепшыць пясчаную глезу“ | — | 40 |
| **Ганчарык М.** „Вымаканьне, выправеньне і вымярзаньне азімага збожжа і як з гэтым змагацца“ . . . | — | 50 |
| **Грышкевіч І.** „Трымай свойскую птушку“ . . . . . . | — | 50 |
| **Дарожкін І. А.** „Галаўня“ (сажа) сельска-гаспадарчых расьлін і спосабы змаганьня з ёю . . . . . . . | — | 75 |
| **Дунін М.** „Палепшым важнейшае ўгнаеньне нашых палёў“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | — | 40 |
| **Журык С.** „Як выгадаваць добрых парасят“ . . . | 1 | — |
| **Журык.** „Як у Даніі кормяць кароў“ . . . . . . . . . | — | 40 |
| **Заяц. П.** Ачышчанае цасеньне павялічвае ўраджайнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . | — | 50 |
| **Іваноў К.** „Як змагацца з пяскамі“, спосабы замацаваньня і залясеньня іх . . . . . . . . . . . | — | 75 |
| **Каратноў К.** „Як і што здабываецца з драўніны . . . | — | 50 |
| **Кацаўраў М.** „Ячмень, авёс, проса, грэчка, кукуруза“ | 1 | — |
| **Крывіцкі В. і Выкачка.** „Як палепшыць песковую глебу“ | — | 40 |
| **Львоў Ул.** „Каменны вугаль“ . . . . . . . . . . . . | — | 50 |
| **Макарэўскі Л.** „Запаленьне лёгкіх у рагатай жывёлы | — | 40 |
| **Мансьветаў В.** „На што хварэюць куры“ . . . . . . | — | 75 |
| **Новікаў А.** „Што трэба ведаць кожнаму пра драўніну“ | 1 | — |
| **Парфяновіч Л.** „Самі вырошчвайце гароднае насеньне“ | — | 50 |
| **Пакроўскі Е. А.** „Азімы чарвяк і барацьба з ім“ . . . | — | 85 |

| | зл. | гр. |
|---|---|---|
| **Пракапенка Д.** „Як палепшыць сенажаць . . . . . . | 1 | 25 |
| „ „Канюшына . . . . . . . . . . . . . . | — | 75 |
| **Сапорын А.** „Як гаспадарыць у лясох мясцовага значэньня" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1 | 25 |
| **Серада І.** „Як трэба каваць коні" . . . . . . . . . | 1 | — |
| **Сілін Б.** „Такарнае рамяство па дзераву" . . . . . | 1 | 25 |
| **Сілін Б. Захараў** Н. „Як кошыкі плясьці" . . . . . . | 1 | 25 |
| **Сіцынскі В.** Хатні і танны выраб пладовых він" . . | 1 | 50 |
| **Сьпічэнка Н.** Як загатаўляць сельска-гаспадарчыя прадукты" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1 | 75 |
| **Сіцынскі.** „Як трэба рабіць масла" . . . . . . . . . | — | 40 |
| **Селівановскій И.** „Изобретатель берестяных тростей" | — | 50 |
| „ „Берестяное производство" . . . . | — | 80 |
| **Такмачоў С. П.** Увага жывёлагадоўлі" . . . . . . . . | — | 40 |
| **Трамковіч П.** „Балотная трасца" . . . . . . . . . . . | 1 | 50 |
| **Тупяневіч С. М.** „Як здабываць корм у сялянскай гаспадарцы" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1 | 15 |
| **Фурс Д-р.** „Кароста, паршы, вашывасьць і іх лячэньні" | — | 30 |
| **Хатэнка Х.** „Сарпякі і барацьба з імі" . . . . . . . | — | 50 |
| **Чемелаў В.** „Пустазельле і меры барацьбы і імі . . | — | 75 |
| **Шыбко Т.** „Скарыстаньне балота . . . . . . . . . . | — | 75 |



Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая вул. № 22.